
Ператоча 2016 → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Анатоль Бахарэвіч → 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 33 (3144) Год LXI | Беласток, 14 жніўня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Лука выходзіць на паверхню

**Хаця ўжо амаль 30 гадоў залітая вадою, то ўспаміны пра яе ўвесь час усплываюць на паверхню, ствараючы шматколерны вобраз мінулых гадоў. Вёска Лука, якая цяпер не існуе на карце Падляшша, прыцягвае не толькі новыя пакаленні нашчадкаў яе даўніх жыхароў, але таксама аматараў гісторыі і тых, якія хочуць выратаваць ад забыцця фрагмент гэтай нетыповай зямлі. Адным з вартавых памяці аб Луцэ з'яўляецца малады фатограф Кацпар Бярыла.**


У цэнтры Кацпар Бярыла

Усё пачалося на пераломе 70-х і 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Менавіта тады ўлады пачалі будаваць Семяноўскае вадасховішча. Мела яно не толькі прыцягнуць шматлікіх турыстаў, але таксама забяспечыць вялікую частку Беласточчыны вадою. Амаль дзесяць гадоў жыхары заліўных тэрыторый пакідалі свае любімыя дамы ды гаспадаркі і самае каштоўнае — зямлю продкаў. Балючы працэс апрача нашай галоўнай гераіні Лукі закрануў іншыя акалічныя вёскі — Гарбары, Буды, Боўтрыкі і Рудню.

Лука здаецца быць разарванай між тым, што даўняе, а тым, што сучаснае. Сярод кемпінгаў, гучнай музыкі дыска-пола і шматлікіх турыстаў можна знайсці крыху сцертыя ўжо сляды мінулага. На пачатку, мінаючы вялікі, недаканчаны, нібыта двор, паварочваем на непрыкметную сцяжынку — галоўную вуліцу Лукі. Высокая трава, старыя дрэвы, сакавітая зелень кустоў — гэта элементы краявіду, якія застаюцца тут ад многіх гадоў. Яблыні, некранутыя часам, надалей пладаносяць, а балоцістыя ўчасткі з'яўляюцца інкубатарам многіх балотных жывінак. Ідучы далей, можна заўважыць крыжы. Стары і новы. Кантрастуюць яны між сабой і напамінаюць аб даўніх часах і адначасова адкрываюць балючую праўду, звязаную з гэтай зямлёй. Хутка сучаснасць прыкрые тое, што было. Гнілы ўжо крыж з пачатку мінулага стагоддзя заступяць новым. Такім, што не будзе адпужваць сваім зеленаватым колерам ды заржавелай бляхай.

Сябрам старога крыжа з'яўляецца невялікая драўляная хатка, якая стаіць непадалёк. Яе некрануты часам фасад выдатна маскіруецца сярод паўсюднай расліннасці. Заглядаючы ўсярэдзіну, можам пабачыць гліняную печку, драўляныя ложкі і саматканыя дарожкі. У паветры пачуем нетыповы пах, які чаргові раз пераносіць нас у краіну ўспамінаў. Гэтая незвычайная частка крыху забытага ўжо свету прыцягнула спадара Войцеха Налівайка, які даглядае хату і панадворак. Над вадасховішча трапіў, мабыць, выпадкова. Аднак спадар Войцех верыць што гэта прызначэнне.

— Прыязджаю сюды на выходныя і адпачынак. Часам зімою. Проста, лаўлю рыбу ў возеры. Дзед пакінуў тут хату; сяджу, пільную. Так як мне сказаў, так і раблю.

Аднойчы, успамінае спадар Войцех, прыехаў да яго малады фатограф Кацпар Бярыла.

— Прыйшоў да мяне і запытаў, ці можна тут зрабіць выставу. Я зразу пагадзіўся і прапанаваў яму, каб здымкі змясціць у вокнах. Увесь час прыходзяць сюды людзі, якія жылі тут і заглядаюць усярэдзіну, — дадае Налівайк.

Выдатныя чорна-белыя здымкі Кацпра Бярылы, якія можна аглядаць у рамках выставы пад загалоўкам «Як стары фатограф», парушаюць тых, якія надалей помняць Луку. І таксама новае пакаленне, якое расказы пра вёску чула толькі ад сваіх продкаў. Бярыла выдатна аддаў тое, што ўжо здаўна прыналежыць гэтай зямлі — памяць. Спадарыня Кацярына Бірыцкая, калі пабачыла сябе на здымку, не магла выйсці з захаплення. Чорна-белая фатаграфія, з выгляду звычайная, паказвае жанчыну сталага веку, аднак спадарыню Кацярыну пераносіць думкамі ў юнацтва.

Выстава ў Луцэ выклікае вялікую зацікаўленасць. Сабраныя на выставе гледачы паказваюць пальцамі на малыя здымкі. Хтосьці не можа паверыць:

— Гэта ж мой настаўнік! Вось тут! Помню яго нібыта сёння!

Сярод крыкаў радасці і вясёлых размоў ёсць таксама хвіліна, каб задумацца. Спадарства Бірыцкія з настальгіяй глядзяць на залітую вадою тэрыторыю і мараць, што ўжо нядоўга іх хата будзе месцам, якоеназаўсёды ўпішацца ў краявід забытай Лукі.

Уладзіслаў Бірыцкі, сын Кацярыны Бірыцкай — адзін з вартавых даўняй Лукі. Ён нарашу купіць кавалак зямлі на ўзбярэжжы вадасховішча. Гэты ўчастак належаў калісьці да яго бацькоў. На яшчэ неагароджанай пляцоўцы ўзнікае прыгожая, мураваная хата. Мае яна служыць перш за ўсё для адпачынку летам і ў выходныя. Хата звонку сучасная, бо з бетону, аднак мае шмат знакаў, якія напамінаюць гаспадарам Бірыцкім аб даўняй Луцэ.

— З архіва ў Гродне маем копію карты гэтых зямель яшчэ з часоў, калі не было тут вады. Відаць дакладна дзе была Лука ды іншыя затопленыя вёскі, — паказвае пальцам спадар Бірыцкі.

Яго маці ўспамінае, што Лука распалажана была на трох узгорках, а вада ракі Нарвы падыходзіла пад самыя гумны.

— Было файна, вялікая вёска, многа моладзі і дзяцей. Усе над рэчку хадзілі і там спявалі. Вёску называлі «Хіны», бо шмат людзей было, некалі ў адной хаце жылі тры-чатыры сям'і, — успамінае спадарыня Кацярына.

У сямідзясятыя гады вёска налічвала 130 гаспадарак. Жыло ў іх каля 600 чалавек. У так шматлюднай вёсцы фатограф меў поўныя рукі работы. Лука мела свайго майстра па фатаграфіі. Быў ім Якуб Смольскі, які гульнюю з фотаапаратам пачынаў яшчэ перад вайною.

Малады мастак Кацпар Бярыла вырашыў пайсці следам памерлага ў сямідзясятых гадах дваццатага стагоддзя Смольскага.

— Калісьці ў час візіту ў Тыкоціне купіў я кніжку пра яго творчасць і так пачалася мая прыгода са здыманнем жыхароў Лукі, — кажа Кацпар. — Прэзентаваная выстава гэта дыпломная праца, якая завяршае маю вучобу на фатаграфічным факультэце ў Варшаве. Я выкарыстаў забытую ўжо тэхніку à la minute, якая карысталася папулярнасцю сярод фатографаў на гэтай тэрыторыі.

Асоба Смольскага — вельмі важная для самых лучаноў. Фатограф не толькі рабіў партрэты жыхарам вёскі, але таксама дакументаваў іх штодзённае жыццё. Яго незвычайныя працы можна паглядзець у публікацыі Падляшскага музея „Jakub Smolski. Wiejski fotograf z Łuki" аўтарства этнографа Войцеха Кавальчука.

Успамін пра Смольскага захоўваецца ў памяці шматлікіх людзей, якія прыйшлі паглядзець выставу.

— Гэта быў звычайны чалавек, займаўся гаспадаркай, але дадаткова рабіў таксама здымкі, — успамінае спадар Раман.

— Быў таксама настаўнікам і краўцом. Жылі мы ў адной хаце ля сябе. Помню, што вельмі мяне любіў, — кажа пляменніца фатографа Яўгенія Смольская.

— Дзед займаўся першымі фатаграфічнымі тэхнікамі. Я ягонымі апаратамі потым гуляў. Цяпер яны ў музеі ў Беластоку, — кажа пляменнік мастака Славамір Смольскі. — І я пераняў па ім любоў да фатаграфіі. У мяне некалькі дзясяткаў негатываў на гарышчы чакае выяўлення.

Кацпар Бярыла падкрэслівае, што гэта не канец яго прыгоды са старым фотаапаратам. Хоча больш партрэтаваць людзей, звязаных з Лукой, пакуль няўмольны час зусім не замяце слядоў мінулага. Аб нашай галоўнай гераіні — Луцэ — даведаўся выпадкова. Хто ведае? Мо так як у Войцеха Налівайка было гэта прызначэнне.

— Відаць, што Смольскі вельмі развіўся на працягу свайго жыцця. Перада мною доўгая дарога, каб дайсці да такога ўзроўню, — падсумоўвае малады фатограф.

**Лукаш ЛЕАНЮК і Патрыцыя РОМАН**

Здымак аўтараў





# Канец
## алімпійскіх кольцаў

Упершыню ў сваім свядомым жыцці асабіста я не буду ўважліва сачыць за ходай алімпійскіх гульняў. Мая памяць пра галоўныя спартовыя спаборніцтвы чалавецтва сягае 1976 года. З таго часу мінула больш дваццаці летніх і „белых" алімпіяд і што характэрна, з кожнымі новымі гульнямі пад пяццю пераплеценымі кольцамі гублялася адчуванне свята. Гэта ў юнацтве і маладосці алімпійскія ідэалы здаюцца чыстымі і светлымі. З гадамі ж высвятляюцца такія акалічнасці, што сузіраць, як раней здаваласся чэсныя, спаборніцтвы на арэнах і пляцоўках не надта хочацца. Маю на ўвазе, канешне, найперш ужыванне спартоўцамі допінгу — зло, якое выкараніць зараз з вялікага спорту надзвычай цяжка, а можа ўжо і немагчыма. А па-другое, вышэйшыя спартовыя арганізацыі свету так пагрузлі ў карупцыі і патаемных гешэфтах, што адрадзіць чысціню алімпійскіх ідэалаў магчыма хіба толькі, распусціўшы ўсе гэтыя МАКі-ФІФы-УЕФы. Вось прыклад з той жа камандай Расіі. Міжнароднае антыдопінгавае агенцтва фактычна даказала, што ўжыванне допінгу расейскімі спартоўцамі мела дзяржаўны характар і было санкцыянавана ўладамі. Зразумела, што допінг ужываюць прадстаўнікі многіх краін. Але ў пераважнай бальшыні з іх — гэта брудная справа асобных атлетаў, альбо нейкіх груповак, асобных нацыянальных федэрацый. У аўтарытарных жа і таталітарных краінах гэтым займаюцца дзяржавы. Прыгадаем тут яшчэ з сацыялістычных часоў „феномены" ў асобных відах спорту атлетаў Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Кубы, ну і, канешне, Савецкага Саюза. Зараз жа ў абсалютныя лідары па ўжыванні стымулятараў выйшла імперская Расія. Сусветнае антыдопінгавае агенцтва па сутнасці прапанавала адхіліць усю зборную Расіі ад алімпіяды, а вось МАК ухіліўся ад рашэння. Хто ў тэме, той разумее чаму. Добра яшчэ, што хоць некаторыя журналісты могуць назваць рэчы сваімі імёнамі. Так аўтарытэтнае нямецкае выданне „Bild" назвала прэзідэнта МАК Томаса Баха „пудзелем Пуціна". У выніку расейцы возьмуць удзел у алімпіядзе, хоць і моцна прарэджанай камандай. На маю ж думку, іх трэба было альбо ўсіх дыскваліфікаваць, альбо ўсіх дапускаць.

У беларусаў жа „спаліліся" весляры, шэраг лёгкаатлетаў і бальшыня цяжкаатлетаў. Каманда ў выніку страціла значную частку прэтэндэнтаў на медалі. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь на адкрыцці алімпіяды даверылі несці велагоншчыку Васілю Кірыенку. Некалькі месяцаў таму гэты спартовец у інтэрв'ю Радыё Свабода заявіў, што беларуская мова мёртвая, на ёй, маўляў, ніхто не размаўляе і выказаў абурэнне, што яго дачку прымушаюць вывучаць такую непатрэбную мову. Наўрад ці чалавек з такім роўнем інтэлекту ўсвядоміў, што ён абразіў некалькі мільёнаў беларусаў. Скандальным і недалёкім, мякка кажучы, выказваннем ён адразу перакрэсліў усё, што зрабіў раней для ведамасці нашай краіны за мяжой сваімі спартовымі заваёвамі. Шкада, бо чалавек мог увайсці ў гісторыю як той, хто здабываў не толькі для сябе, але і для краіны медалі на трэку ці шашы, а ўвойдзе вось з такой „герастратавай" славай, „спаліўшы" сваё імя. Хоць, канешне, яго зараз ведае значна большая колькасць людзей. Аднак цяпер пераважная бальшыня з іх будзе заўсёды супрацьгэтага велагоншчыка, хоць гэта і супярэчыць нармальнай прыродзе чалавека. Аўра антысімпатый будзе вельмі моцнай. А тут яшчэ гэтае рашэнне функцыянераў нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі. Хоць, канешне, такому сцягу такі чалавек як Кірыенка менавіта адпавядае. Гэтыя функцыянеры за 20 гадоў развалілі амаль увесь беларускі спорт, заўсёды напярэдадзе прафесійнага падыходу ставілі фальшывую ідэалогію. Чаго яшчэ было ад іх чакаць...

Памятаю, як ішлі нашы алімпійцы пад бел-чырвона-белым сцягам у нарвежскім Ліллехамеры ўжо ў далёкім 1994 годзе. І першы там жа суверэнны медаль канькабежца Ігара Жалязоўскага. Вось гэта былі эмоцыі, гэта было заўзенне! Ну а зараз зусім не тое. Застаецца на алімпіядзе паперажываць за асобных прадстаўнікоў Беларусі, якія раней выявілі сябе як сумленныя спартоўцы і сапраўдныя патрыёты.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Блізка, усё бліжэй да Прыроды...

Хто жыве ў горадзе, скардзіцца, што ў яго замала Прыроды. Замала дрэў і лугоў, замала палёў і лясоў; Сонца замала, замала адпачынку на ўлонні натуры... Я жыву ў вёсцы і буяю ў прыродзе як дзікая свіння ў пушчанскім балоце. Я адчуваю сябе добра, але і не вельмі добра. Добра, наемся сабе яблык з уласнага садка, ці груш і сліў. Зялёнай цыбулі калі хачу нашчыплю з градкі столькі, колькі мне трэба ў халаднік. Хлябчу яго пасля сам і спаглядаю на жывую прыроду з акон кухні, на цікуючага за вераб'ём ката. Толькі кончык хваста яму матляецца з-за ліста лапуху. На майго сабаку, які ў адкрытых дзвярах хаты прытаіўся, каб схапіць ката за хвост. На сябе самога, што адлюстроўваюся ў шыбе — хто ці што цікуе там за мной? Пакуль што, хлябчу халаднік з агуркамі, багата пасыпаны кропам. Агуркоў і кропу сабе я не шкадую. Бо таго і другога ў мяне багата. І нават з лішкам. Ва ўсякім выпадку, не толькі ў мяне. Ужо пачаліся вандроўкі гаспадынь ад хаты да хаты з кошыкамі, поўнымі агуркоў, зеляніны, зялёнай фасолькі і іншага зямнога багацця. «Ці можаце ўзяць ад мяне тое ці іншае? Урадзіла ўсё сёлета, можа змарнавацца, калі не раздам людзям...». Так, справілася сёлета Прырода. Сыпанула і гароднінай, і ляснымі грыбамі. Хочаш, не хочаш, а жывеш як сапраўдная дзікая свіння, што не арэ, не сее, а такая нажэртая па вушы валяецца ўвесь дзень у прахалоднай калюзе. Таму, што ежа сама прыходзіць да хаты, нават праз інтэрнэт не прыйдзецца яе заказваць. О, чую зноў стук, стук, нехта стукае ў акно. Магчыма, суседка з поўным кошыкам... Але не, на гэты раз у шкло заламатала ілбом муха. О, і ў гэтай драбязе дагадзіла Прырода! Разбуянілася гэтага больш, чым трэба. Толькі колькі трэба, ці колькі не трэба? Мухі, гізы, камары, шэршні і іншыя лятучыя і кусліва прадвяшчаюць Апакаліпсіс. «Мусіць, будзе канец свету!» — клянецца мой сусед. А ён ведае, што кажа, таму што дажыў у здароўі да ста гадоў, а ў апошні час пачаў жудасна кашляць. Сапраўды, страшны гэты канец свету. Ці, можа, я куплю суседу сіроп? Прырода прыродай, а чалавек чалавекам, праўда? Аднак, штосьці ёсць у гэтым ненатуральным разводзе аднаго ад аднаго. Чалавек паводзіць сябе ў адносінах да Прыроды, як муж пакрыўджаны на жонку. Я такога ведаю. Не размаўляў з ёю дзесяць гадоў. Дзесяць гадоў! Таму што зварыла яму была вясной не суп з маладой капусткі, а картаплянку са старой бульбы. Са старой бульбы! Але ж маладая яшчэ не вырасла. Праз дзесяць гадоў загаварыў да жонкі прымірэнчым тонам: «А чаго ты такая надзьмутая?! Надышоў час, каб памудрэць, каб прыйсці да пагаднення». А яна: «Цяпер памудрэць?! Цяпер я маю ў с... мудрасць тваю! І цябе самога. Адразу!».

Жарты ў бок, а Прырода і так ведае сваё. Прымільвалася, старалася як магла, але чалавек з вышыні свайго тупога розуму нічога не зразумеў. Калі дойдзе да яго дурнаватага мозгу тое «Адразу!», выгукнутае той вышэйзгаданай жонкай? Ніколі?!. Я не ведаю, мабыць, гэта непаразуменне, змешчанае ў Старым Запавеце, або, магчыма, перакладчыцкая памылка, калі паводле слоў, напісаных там, Бог дае пад **валадарства** чалавека свет і ўсе яго істоты. Ці не была там гаворка больш аб **клопаце** аб свеце і ўсім тварэнні? Клопат, апека, не валадарства. Іншая справа, што мудрае, чулае валадарства часта прыносіць такія ж эфекты, што чулая, клапатлівая апека. Розніца паміж імі адна: у першым выпадку гаворка ідзе аб спраўным кіраванні ўсёй складанай сістэмай, але ж пры ўмове, што гэтую сістэму дасканала ведаеш. Але ці чалавек у поўнай меры зразумее складанасць сістэмы пад назвай Прырода? У другім гаворка пра чулае садзейнічанне ў складанай сістэме, якой часткай з'яўляешся. Не вышэй таго. Над Прыродай стаяць толькі гарады. Да часу. Пакуль іх руін не паглыне Прырода. Але Прырода гэта таксама чалавек. Чым ёсць Натура без яго — дзікай прыродай?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Ляпаем, а не спяваем

Так склалася, што я апошнім часам распісаўся толькі пра палітыку. Ну, што ж зробіш, свет, відаць, не ідзе да лепшага. Хочаш ці не хочаш, але благое кранае ўсіх нас. Таму нікуды не дзенешся ад сённяшніх жахаў. Менавіта, насуперак злабадзённаму, вырашыў я падзяліцца з чытачамі «Нівы» не толькі пабачаным сваімі вачыма, але і пачутым сваімі вушамі. Адразу заяўляю, што напісанае мною будзе змяшчаць выключна мае суб'ектыўныя меркаванні, без паглыблення ці адшукоўвання апраўдальнага сэнсу ў пачутым. А справа будзе пра музыку і словы.

Вельмі люблю слухаць музыку, але Бог не надзяліў мяне такім голасам, каб радаваць ім іншых людзей. Магу толькі знерваваць сваім мычаннем. Але ў сяброўскай кампаніі, калі перакулю некалькі глыбейшых, тады набіраюся адвагі фальшывіць народныя і эстрадныя выкананні. Таму на выканаўцаў са сцэны гляджу з вялікай набожнасцю і спадзяваннем пачуць такія галасы, ад якіх мурашы заходзяць па скуры. У маёй маладосці, помню, бацька любіў паўтараць (ён таксама не з певуноў), што калі пушчанскія хлопцы зацягнулі песню, то святло ў нафтавых лямпах патухала і нат сцены ў хатах дрыжэлі. Цяжка паверыць, але такое паўтараў не толькі мой бацька. На жаль, штораз радзей маем дачыненне з цудоўнымі народнымі галасамі, якія гатовы пакарыць не толькі слухачоў сваёй вёскі, але і музычных знатакоў.

Затое маем штораз больш дачынення проста з нейкімі падшыванцамі, якія пад плэйбекі, ці інакш так званую фанаграму, стараюцца рабіць музычныя і фінансавыя кар'еры. На нашым беларускім музычным панадворку гэты працэс набывае часта ўжо карыкатурныя формы. У апошнім часе мне не толькі прыйшлося пабачыць, але і паслухаць такія «зорачныя» выступленні. Сапраўды, дрыжыкі пайшлі мне па скуры — але ад жаху ад пачутага. Але па чарзе.

Па-першае, да таго, што трыццаць гадоў таму было закладзенае, апрацаванае і праспяванае легендарнымі «Дубінамі» (слова легендарныя пішу з поўнай свядомасцю і адказнасцю), на жаль, сённяшнія калектывы не толькі не раўняюцца, але нават і не дарастаюць да дубінскіх пятак. Толькі беластоцкі «Белы Сон» быў тут выключэннем. Музыка, мова, словы, аранжыроўка — гэта толькі, ці мо аж толькі, каб годна і з адказнасцю выступаць са сцэны перад слухачамі. Людзей трэба шанаваць, а не лічыць іх безгустоўнымі баранамі. Ну, хіба што браць мерку з саміх сябе. Мой знаёмы таксама мае адну вельмі простую ацэнку такіх выступоўцаў: калі не ў змозе яны выступаць на сцэне ўжывую і не маюць такой унутранай патрэбы, дарога для ўсіх такіх «артыстаў» на яе павінна быць арганізатарамі перакрыта.

Другая справа — гэта бязлітаснае абкраданне чыёйсьці абсалютна не ананімнай, музычнай ці моўнай працы. Калі слухаеш, як крадуцца музыка і словы з украінскай, расейскай, французскай моў і ніхто з «нашых» выканаўцаў не заікнецца словам пра сапраўднае аўтарства хіта, то трэба гэта назваць па імені: ашуканства. Але, яшчэ горш, калі агульнавядомых беларускіх аўтараў і музыкаў публічна, поўнасцю свядома пазбаўляецца аўтарства. З недаверам гляджу і слухаю выступы менскіх і падляшскіх гуртоў, якія выконваюць песню Зміцера Вайцюшкевіча «Ты залаты» на словы Уладзіміра Някляева, не гаворачы пра нашых беластоцкіх пісьменнікаў і хіты на іхнія словы. Ані арганізатары, ані вядучыя, ані выканаўцы ў час сур'ёзных фестываляў не ў змозе акуратна, адказна і з патрабаваннямі асноў культурнасці падаць да публічнага ведама асноўную інфармацыю пра аўтараў твораў. Сорам ад такой непісьменнасці. Ужо раней не раз звярталася ўвагу на гэта наша рэдакцыя. Другі сорам — гэта мова выканання. Калі выканаўца не вывучыць слоў і не разбіраецца ў сэнсе спявання, то ад колькасці выкрычаных ім памылак валасы на галаве падымаюцца дыбам, а ў слухача прападае якая-колеч павага да такога спевака. Усе выканаўцы наракаюць на недахоп тэкстаў і музыкі. Дык загляніце ў сабраныя Сцяпанам Копам спеўнікі з народнымі песнямі з розных рэгіёнаў Беласточчыны. Тут вашы хіты і будучая папулярнасць. А так будзеце толькі заклікаць слухачоў «ляпаць» у далоні, каб насілу выклікаць у іх павагу да сябе. А ад ляпання — толькі языком — нічога добрага яшчэ не атрымалася.

Яўген ВАПА

# XIV Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча-2016»

**Падчас XIV Белавежскіх мастацкіх інтэграцый «Ператоча-2016», якія 29 і 30 ліпеня арганізаваў у амфітэатры ў Белавежы Фонд «Царкоўная музыка» з Гайнаўкі, у супрацоўніцтве з Белавежскім асяродкам культуры, Белавежскім аддзяленнем ПТТК і Лясным тэхнікумам у Белавежы, выступілі калектывы з Польшчы, Беларусі, Расіі і Літвы. Паколькі ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі па абодвух баках мяжы жылі і жывуць перш за ўсё беларусы, палова выступаючых на сцэне калектываў прэзентавала беларускія песні і беларускую культуру. Аднак «Ператоча» спасылаецца на традыцыі і культуру розных нацыянальнасцей, прадстаўнікі якіх жылі на пушчанскай і прыпушчанскай тэрыторыях і таму са сцэны гучалі таксама творы на польскай, украінскай, расійскай, літоўскай і іншых мовах.**

У старшыні Фонду «Царкоўная музыка» Міколы Бушко няма сумненняў, што ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі ў галоўным жылі беларусы, таму запрашае на «Ператоча» беларускія калектывы з Беласточчыны і Беларусі, якія прэзентуюць беларускую музыку. Мікола Бушко звяртае таксама ўвагу на патрэбу прэзентавання культур іншых нацыянальнасцей, якія пражывалі ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі: польскай, расійскай, украінскай, яўрэйскай, літоўскай, нямецкай і ромскай. «Ператоча» вядзецца на дзвюх мовах: польскай — дзяржаўнай і беларускай — характэрнай мясцоваму насельніцтву. Двухмоўнымі таксама былі рэкламныя матэрыялы. Частыя ўдзельнікі «Ператоча» ведаюць ужо, што слова *ператоча* абазначае месца ў клуні перад токам. Паколькі частку публікі складаюць турысты, якія выпадкова трапляюць на «Ператоча», таму арганізатары белавежскай імпрэзы тлумачаць ідэю прэзентацыі культур народаў, якія ў мінулым пражывалі на тэрыторыі Белавежскай пушчы і ў яе наваколлі.




■ Зміцер Вайцюшкевіч і яго «Усход-Захад-аркестр» з Мінска



■ Вакальны калектыў «Малое ГДК» Гайнаўскага дома культуры



■ Беларускі калектыў «Ручаёк» з Белавежы

— Ператоча — месца перад токам у клуні, дзе адбываліся вяселлі, хрысціны і іншыя сямейныя гасцяванні. Наша «Ператоча» — сімвал гасціннасці і адкрытасці на культуры розных нацый, якія жылі ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі. Штогод запрашаем калектывы розных нацыянальнасцей, — сказаў Мікола Бушко, ініцыятар мерапрыемства, якое ў гэтым годзе ладзілася пад ганаровым патранатам маршалка Падляшскага ваяводства.

XIV Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча-2016» распачаліся з выездy мастацкіх калектываў на брычках, якія такім чынам запрашалі публіку на мерапрыемства. Пасля прагулкі па белавежскіх вуліцах калектывы вярталіся на асноўнае месца імпрэзы. Тады са сцэны амфітэатра на беларускай і польскай мовах прагучала песня «Белавежская пушча», якая традыцыйна абвяшчае пачатак першага і другога дня «Ператоча». Адкрылі мерапрыемства Мікола Бушко і войт Белавежскай гміны Рыгор Каспровіч, а вядучым быў журналіст Радыё Рацыя Радаслаў Дамброўскі.

Першы дзень імпрэзы пачаўся з выступлення беларускага гурта «Ручаёк» з Белавежы, які цікава запрэзентаваў беларускія народныя песні. Музычны кіраўнік «Ручайка» і заадно музычны інструктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі звярнуў увагу на пастаянную магчымасць у «Ручайка» выступаць падчас «Ператоча» перад белавежскай публікай, што радуе ўдзельнікаў яго калектыву.

— Стала традыцыяй, што «Ручаёк» — мясцовы беларускі калектыў — першым выступае на «Ператочы». Мы спяваем на беларускіх мерапрыемствах у Гайнаўскім павеце і па-за яго межамі. Сродкі на дзейнасць здабываем у рамках праектаў для калектываў беларускай нацыянальнай меншасці, — сказаў кіраўнік Марк Зубрыцкі.

— Мы спявалі ад душы, як умеем, давалі радасць сабранай публіцы. Слухаюць нас, між іншым, сваякі, знаёмыя, айчынныя і замежныя турысты. Тут пануе прыемная атмасфера, — сказала Марыя Руско.

XIV «Ператочу» пашанцавала з надвор'ем — было цёпла. Хаця крыху пачаў падаць дождж, у белавежскім амфітэатры сабралася многа людзей. Далей ад сцэны працавалі пастаянныя пункты харчавання, якімі летам ахвотна карыстаюцца турысты, якія масава наведваюць Белавежу. Песні са сцэны чутны былі таксама гасцям навакольных гасцініц, што заахвочвала іх прыйсці на «Ператоча» паслухаць і паглядзець выступаючых. Беларускія песні займальна запрэзентаваў вакальны калектыў «Малое ГДК» Гайнаўскага дома культуры. Займаецца з ім яго музычны кіраўнік і заадно музычны інструктар ГДК Марта Грэдаль-Іванюк, былая спявачка «Знічкі» з Гайнаўскага белліцэя. «Малое ГДК» часта перамагае ў конкурсах «Беларуская песня».

— У гэтым годзе мы атрымалі ўзнагароду Гран-пры фестывалю «Беларуская песня», арганізаванага для вучняў. Выступаем на шматлікіх беларускіх мерапрыемствах. Мы вельмі любім спяваць на сцэне. Тут будзем выступаць перш за ўсё па-беларуску, — сказалі вучаніцы, якія ў «Малым ГДК» займаюцца каля 5 гадоў — Ванда Гінцт, шматкратная лаўрэатка дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова», Марыя Савіцкая з Беластока, якая пастаянна прыязджае са сталіцы Падляшша на заняткі ў ГДК, Іза Карчэўская са школы ў Чыжах, Оля Раманюк, Кацярына Дружба і Дарота Штылер з гайнаўскіх школ.

Галоўнай зоркай першага дня «Ператоча» быў Зміцер Вайцюшкевіч і яго «Усход-Захад-аркестр» з Мінска. Паслухаць міні-канцэрт Вайцюшкевіча і яго гурту прыбылі маладыя асобы, але песні ў выкананні Зміцера Вайцюшкевіча цікава было паслухаць таксама і старэйшым.

— Я многа разоў выступаў у Белавежы ў гатэлях і пансіянатах. Публіка добра ўспрымала мае выступленні. З аркестрам мы выступалі ў Белавежскім асяродку культуры і Музеі Белавежскага нацыянальнага парку. Сёння ўпершыню будзем выступаць у Белавежы падчас пленэрнага мерапрыемства. Спадзяюся на добры кантакт з публікай, — сказаў Зміцер Вайцюшкевіч.

Давід Шымчык амаль год таму назад стварыў беларускі калектыў і на сёлетнім фестывалі «Беларуская песня» заняў першае месца ў сваёй катэгорыі. Публіку «Ператоча» захапіў эстрадным рэпертуарам.

— Я, як беларус, хацеў стварыць свой беларускі калектыў. Мы спяваем перш за ўсё па-беларуску, але выконваем таксама іншыя песні. Я нашы вядомыя песні апрацоўваю так, каб яны падабаліся асабліва маладой публіцы, — заявіў кіраўнік калектыву «Давід Шымчук бэнд».

Калектыў «Гайракі» з Бельска-Падляшскага ўдала запрэзентаваў у белавежскім амфітэатры рэпертуар пераважна на ўкраінскай мове.

— Мы засяваем таксама супольна з Калектывам беларускай песні «Гарадніца» з Гродна, — заявіла яшчэ перад выступамі настаўніца Альжбета Баравік з беларускага вакальнага калектыву «Світанак», які дзейнічае пры Самаўрадавым прадшколлі № 14 у Беластоку.

Выступаючы самастойна, калектыў «Світанак» з Беластока захапіў публіку меладычнымі песнямі, а «Гарадніца» з Гродна заваражыла сабраных сваім рэпертуарам — *прыгожымі* песнямі, музыкай капэлы і кампазіцыяй танцаў. Цікава выступіла таксама «Капэла Янкеля» з Беластока. Прэзентуе яна яўрэйскую музыку і культуру, якая да Другой сусветнай вайны была неад'емнай часткай Падляшша і наваколля Белавежскай пушчы. Калектыў «Казачы круг» з Масквы зацікавіў публіку спевамі і танцам з шабляй. Лічыцца ён адным з лепшых казачых калектываў і прэзентуе перш за ўсё песні данскіх, цярскіх і кубанскіх казакоў. Песні гурт запісваў падчас шматлікіх этнаграфічных экспедыцый і аўтэнтыка гэтых твораў дадае вартасці казачаму калектыву. Калектыў песні і танца «Белыя росы» з Гродна захапіў сабраных разнароднасцю і прыгажосцю танцаў ды стройным спевам. Выканаўцам фолькавай музыкі, інспіраванай цыганскай музыкай, выконванай з дапамогай традыцыйных акустычных інструментаў, быў калектыў «Čači Vorba» з Любліна, які цікава запрэзентаваўся ў Белавежы. Калектыў песні і танца «Малое Падляшша» з Сямятыч удала запрэзентаваў польскія народныя танцы.

— Нашы вучні перамагаюць на агульнапольскіх конкурсах народных танцаў. Пасля прымаюць іх у прэстыжныя танцавальныя калектывы, якія дзейнічаюць у вялікіх гарадах, — сказаў заснавальнік і музычны кіраўнік «Малога Падляшша» Кшыштаф Шышко.

Літоўскія народныя песні і танцы займальна запрэзентаваў Калектыў песні і танца «Шvеса» з Вільні.

— Наш калектыў дзейнічае звыш 50 гадоў і ў асноўным выступаюць у нас студэнты. Публіка ў Літве любіць народныя танцы і песні, таму ў нас дзейнічае многа фальклорных калектываў, якія прэзентуюць нашы традыцыі і нацыянальную літоўскую культуру, — заявілі Йонас Малінаўскас і Эдуард Міхалькевіч з калектыву «Шvеса» з Вільні.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Новыя дошкі ў Новым Ляўкове

Амаль усе вёскі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета маюць прыгожыя драўляныя дошкі аб'яў. У некаторых з іх ёсць па некалькі дошак. На іх заўсёды шмат афішаў, плакатаў і паведамленняў, між іншым, Гміннай рады, Гміннай управы і Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы, а таксама дамоў культуры ў Гайнаўцы, Гарадку, Міхалове і Нарве. Пра г. зв. таблiцы (у Ляўкове не называюць іх дошкамі) паклапаціліся гмінныя ўлады, гмінныя радныя ды солтысы. Пра гэта, каб на дошках былі свежыя паведамленні, клапоцяцца солтысы Альхоўкі, Баб'яй Гары, Гушчэвіны, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Лешукоў, Масева, Міклашэва, Міхнаўкі, Падляўкова, Плянты, Скупава, Семяноўкі і Тарнаполя.

Цяпер у Новым Ляўкове пяць дошак аб'яў: дзве ў вёсцы і тры на калёніі (і там жа ж жывуць людзі). Апошнюю зрабілі — па прапанове солтыса — жыхары калёніі гэтай вёскі сталяры Аляксандр і Вітальд Скепкі. 26 ліпеня г.г. убачылі яе ўпершыню тамашнія жыхары Целушэцкія, Марчукі і Скепкі (іх тут шаснаццаць чалавек).

Табліца знаходзіцца на скрыжаванні дарог. І вельмі добра. Сюдою ездзіць шмат людзей. Зараз жыхары калёніі Новага Ляўкова куды больш ведаюць, што і дзе дзеецца, між іншым, чым займаецца Гмінная рада (якія пастановы прымаюць радныя падчас сесій) і войт Нараўчанскай гміны. Лета ў разгары і ў вёсках ладзяць шматлікія культурна-забаўляльныя мерапрыемствы. Пра іх можна прачытаць аб'явы на дошцы блізка ад свайго дома, жывучы нават на калёніі. Вось якая выгада. Варта дадаць, што ў Новым Ляўкове жывуць у пераважнай большасці старэйшыя людзі. Яны не ходзяць далёка ад дому. Некаторыя не ходзяць у краму па прадукты, а купляюць іх з аўтакрамы два разы ў тыдзень.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Замаруджанае жніва

Сёлета натура дарыць нам фокусы. Па сённяшні дзень на полі застаецца шмат няскошанага збожжа. Такое я прыкмеціў у Дубіцкай і Чыжоўскай гмінах на мінулым тыдні. Калісьці жніво, як касілі сярпом ды касою, у ліпені было ў разгары. Па сённяшні дзень застаецца ў народзе прымаўка: «На Пятра, баба хлеба напякла». У Кузаве, напрыклад, жніво пачыналася 15 ліпеня, у дзень закладкі царквы (прыхадское свята — Рыза). Гэтая традыцыя па сённяшні дзень захавалася. Зранку жыхары ўдзельнічаюць у набажэнстве, пасля поўдня ідуць зажынаць жыта. Звычкай было, што да св. Прарока Ільі збожжа было звезена ў стадолы. У гэтым годзе ўсё адбываецца інакш. Жніво замаруджваецца. На Льяша, г.зн. 2 жніўня, паміж Збучом і Морам камбайнавалі жыта. Не лепш справа маецца і ў маёй вёсцы. Кузаўцы таксама не закончылі жніва. Мой сябрук паспеў яшчэ пры добрым надвор'і скамбайнаваць палетак, але, як сказала ягоная жонка, ураджай сёлетні ненайлепшы — слаба сыпала. Гэта вынік трыццацiградуснай спёкі, якая засушыла зерне ў пачатках ліпеня. Ды зараз пачарнелае збожжа з поля цяжка звезці. Селяніну заўжды вецер у вочы. А кажуць, што «хлоп» спіць, а яму расце. Няўжо гэта праўда?

**Уладзімір СІДАРУК**

# Фэст „На мэжы”

**24 ліпеня ў нядзелю на спартыўнай пляцоўцы паміж Крывятычамі і Морам адбыўся першы фэст „На мэжы”, арганізаваны Арлянскай і Чыжоўскай гмінамі. У чатыры гадзіны пасля поўдня вядучая Марыёля Герман-Петручук звярнулася да публікі, якой прыблізна сабралася чалавек дзвесце:**



Пеўчая група з Мора

— Добры дзень, шаноўнае спадарства! У прыгожую нядзелю вітаю ўсіх, што наведалі дзве неразлучныя вёскі — Мора і Крывятычы, каб прыняць удзел у вельмі асаблівым свяце. Сёння тут, дакладна на



мяжы Гайнаўскага і Бельскага паветаў, упершыню адбудзецца адмысловы фэст пад лозунгам „На мэжы”. Мерапрыемства невыпадкова ладзіцца на гэтым месцы, бо яно выдатна падкрэслівае сяброўства, якое завязалася і далей развіваецца паміж суседнімі Арлянскай і Чыжоўскай гмінамі. І хаця, дарагія госці, Мора знаходзіцца ў Гайнаўскім павеце, а Крывятычы ў Бельскім, то мяжа паміж імі амаль незаўважная. Яны функцыянуюць побач сябе ў адзіным культурным крузе. Каб падкрэсліць гэтую ўнікальную сітуацыю, улады абедзвюх гмін рашылі сарганізаваць сваім жыхарам фэст, каб маглі яны яшчэ шчыльней зінтэгравацца і пасвяткаваць у сваім родным куточку найпрыгажэйшым чынам у суправаджэнні ўсходнеславянскіх песень, вядомых усяму мясцоваму насельніцтву. Так складваецца, што музыка заўсёды і ўсюды яднае людзей і не перашкаджае гэтаму нават агульнавядомая мяжа.

Марыёля Герман-Петручук прывітала прысутных і запрасіла на сцэну першых выканаўцаў, калектыў „Арляне”, які налічвае дванаццаць асоб. Музычны даробак гэтай групы заснаваны на багацці мясцовай культурнай спадчыны продкаў. За час свайго існавання, а гэта больш за 65 гадоў, калектыў атрымаў шмат узнагарод і заўсёды з гонарам прадстаўляў сваю гміну ды тутэйшую беларускую гаворку як мясцовую візітную картачку. Апрача традыцыйных вакальных выступленняў гурт рыхтуе таксама абрадавыя сцэнкі, якія паказвае на адмысловых мерапрыемствах. Ужо 27 гадоў гурт працуе пры арлянскім Гмінным асяродку культуры пад кіраўніцтвам Мікалая Фадзіна. У рамках міні-канцэрта „Арляне” праспявалі песні „Ой дзе ж ты была”, „Каліна-маліна”, „Цякла рэчка”, „Ой пайду”, „Кацярынка” ды дуэт Ніна Шыманская і Валянціна Арэшук — „Гуцулку”.

Затым вядучая прывітала гасцей: Юрыя Васілюка — войта Чыжоўскай гміны, Пятра Сэльвесюка — войта Арлянскай гміны, Андрэя Скепку — віцэ-старасту Гайнаўскага павета, Міраслава Бало — віцэ-старшыню Рады Бельскага павета, Крыстыну Гаўрылюк — старшыню Рады Чыжоўскай гміны, Аляксандра Кліна — старшыню Рады Арлянскай гміны, Анну Несцярук — дырэктар арлянскага ГАК, Юрыя Якімюка — дырэктара чыжоўскага ГАК, Марыю Тамчук — дырэктар Комплексу школ у Орлі. У ліку запрашаных гасцей былі таксама радныя паасобных гмін, солтысы і члены салэцкіх рад, прадстаўнікі фірмы „Itap” у Моры — Пётр Міхалоўскі і Ірэнэуш Крук ды камендант пажарнікаў з Мора Мікалай Нічыпарук.

Ініцыятарамі і арганізатарамі фэсту „На мэжы” былі войты абедзвюх гмін, а тэхнічна-лагістычны бок мерапрыемства забяспечылі абодва гмінныя асяродкі культуры ды салэцкія рады Крывятыч і Мора.

На сцэну выйшлі абодва войты, якія афіцыйна адкрылі фэст. Юры Васілюк сказаў:

— Witamy Państwa bardzo serdecznie i gorąco, kłaniając się nisko! Panie wójcie, drodzy goście, Szanowni Państwo, czuję się niezwykle, czuję się bardzo radosny, a to dlatego, że inicjatywa, która rodziła się przez wiele lat, wreszcie doszła do skutku. Takie inicjatywy są bardzo cenne, to są inicjatywy, które budują nasze przyjaźnie, budują coraz lepsze relacje, powodują coraz lepszą współpracę. Ja bardzo się cieszę, że potrafimy takie inicjatywy realizować. Tu patrzę na przyjaciela, Pana wójta gminy Orla, z którym znamy się już długo, z którym współpracujemy bardzo. Szanowni Państwo! Ta współpraca daje efekty. Jednym z nich jest niewątpliwie ten festyn „Na meży”, festyn który ma nas pobudzić do twórczego myślenia o naszych gminach, o tym co w naszych gminach dobrego powinno się jeszcze wydarzyć i co dobrego się dzieje, powinno nas pobudzić do myślenia o przyszłości naszych małych ojczyzn. Jestem przeszczęśliwy, że inicjatywa, która zrodziła się już kilka lat temu, wreszcie jest realizowana i to w miejscu szczególnym, które spaja nasze małe ojczyzny „na meży”, na pograniczu, choć tak naprawdę to my tego pogranicza nie widzimy i oby go w przyszłości nie było. Szanowni Państwo, miejsce wyjątkowe, ja dzisiaj uświadomiłem sobie, że warto takie miejsca wykorzystywać do tego by realizować bardzo, mam nadzieję, cenne inicjatywy.

Пётр Сэльвесюк:

— Panie wójcie, szanowni Państwo, drodzy zebrani! Pozwólcie, że ja tak przetłumaczę na наш язык тое, што вуойт з гміны Чыжыэ сказаў. В нас, у Вуорлі говорат так — як споткаецьця двох скупых господаруоў і одін другого нэ хочэ до сэбэ запросіті, то спотыкаюцьця на мэжыэ. І вышло так і тэпэр. То быў очывісьце жарт, натомяст праўда ест такая, жэ залежыт як на то подівімся, бо тая мэжа можэ альбо діліті, альбо можэ лончыті і ў тым міесьцю, в тым пшыпадку тая мэжа лончыт і мешканьціёў, лончыт мейсцовосьці і гміны. Ежэлі подівімся і на гміну Вуорля, і на гміну Чыжыэ, то тые гміны бардзо подобнэ. Натомяст ежэлі подівімся троху шырыэй, то оказуецьця, жэ мы яко мнейшосьць бялоруска православна маем трудносьць в функц'ёнованю, трудносьць в тым, жэбы наша мэншосьць розвівалась. І тая ініц'ятыва, котора поўстала тэпэр, ест ку тому, жэбы тую мэншосьць будоваті, бо нас ест штораз мэнш. Ежэлі мы нэ будэм дэцыдоваті за сэбэ, то хтось за нас в коньцю здэцыдуе, а то напэўно для нас нэ будэ добрэ. Жычу разэм з Панэм вуойтэм мілого пополудня і думаю, жэ скажэм вэ двох — запрашаем за руок тутай на такій сам фэстын. Всёго найліепшого!

На сцэне выступіў калектыў „Верасы” з Чыжоўскай гміны — 11 асоб сапраўдных энтузіястаў усходняй музыкі, які існуе ўжо чатыры гады, а яго членамі з'яўляюцца жыхары розных мясцовасцей Чыжоўскай гміны. Лідарка групы Ірэна Сачко заявіла: «Добры дзень, дарагія госці. Сорак пяць гадоў мы чакалі, я асабіста, каб сустрэцца на той мэжэ Мора і Крывятыч. Я паходжу з вёскі Мора, вельмі многа мяне тут злучае, я тут нарадзілася, у блізкім будынку вучылася, навуку прадаўжала ў Орлі ў школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі і многае з таго захавалася ў маёй памяці. Пасля сарака пяці гадоў мы сталі пенсіянерамі...».

Чарговымі калектывамі, якія запрэзентаваліся шматлікай публіцы, былі „Фэрмата” з Орлі — тры гімназісткі, „Малінкі” — тры асобы, „Чыжавяне” — сем асоб, Володымір Рэва — сола на сапілцы, пеўчая група з Мора — чатырох пенсіянераў, „Вэрвачкі” — адзінаццаць асоб, „Вясна” (сужонства з Беластока). У гадзінах 19.00-21.30 да танцавальнай забавы граў калектыў „Арт-Пронар”.

Паспрыяла надвор'е. Арганізатары задбалі пра пачастунак запрошаных гасцей у вясковай святліцы, а калектывы пасля сыходу са сцэны каштавалі пад палаткай бігас. Былі пастаўлены гмінныя прамацыйныя ларкі, у якіх можна было купіць даўгапісы, запісныя кніжачкі, прывязі і т.п. Наймалодшыя ўдзельнікі мерапрыемства сваволілі на надуўных з'язджальнях ды на еўрабанджы. У спякотны дзень быў попыт на марозіва, а хто хацеў мог збоку любавацца півам. Усё пайшло па думцы арганізатараў, прыйшло і прыехала многа людзей. Беларуская музыка прыцягвае, кожны мог сабе нешта ўпадабаць. Добры настрой ды ахвота гледачоў пагуляць спрычыніліся да таго, што фэст зарэкамендаваўся паспяхова, каб стаць цыклічным мерапрыемствам.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**



Нашы верныя Чытачы

# Анатоль БАХАРЭВІЧ, ветэрынар

**Кожны чацвер год у год па новы нумар беларускага тыднёвіка ў рэдакцыю заходзіць ужо 91-гадовы сівенькі бадзёры жыхар алеі Пілсудскага. Анатоль Бахарэвіч, цяпер ужо з памочніцай-палачкай. Раней падпісваўся, але пасля таго, як перамог у гістарычным ніўскім конкурсе, зачасціў у недалёкую ад яго хаты рэдакцыю. Тут можа пацікавіцца новымі выданнямі з усяго беларускага свету і проста паразмаўляць. Не ўсё яшчэ можна распавесці з таго, што ён і яго сям'я перажылі. Бо яшчэ жывуць нашчадкі тых, хто хацеў іх з роднай зямлі сілай выгнаць у іншы рай. Ці той час наступіць?..**

Доктар ветэрынарных навук нарадзіўся 14 красавіка 1925 года ў вёсцы Баршчэва каля Харошчы. Бацькі, Ганна і Пятро, гаспадарылі там на 4 гектарах зямлі. Першыя чатыры класы кончыў у роднай вёсцы, два наступныя ў Харошчы. Ад пачатку вучобы вылучаўся высокімі вынікамі. Відаць, добры быў узровень гэтых школ, калі на экзамене ў школу імя Караля Зыгмунта Аўгуста ў Беластоку Толік апынуўся на 9 месцы на сто кандыдатаў з гарадскіх школ. Штодзень хадзіў 12 кіламетраў у школу ў Беласток. Дзякуючы высокім ацэнкам і стараннасці атрымаў ён месца ў школьнай бурсе, а праз нейкі час звольнілі яго з паловы школьных аплат. Выбух вайны ў 1939 г. змяніў традыцыйную гімназічную адукацыю, савецкія ўлады заняліся школьнай праграмай, а з момантам пачатку вайны ІІІ Рэйха супраць СССР школьнае навучанне было спыненае...

Вясной 1942 г. Анатоль Бахарэвіч быў ахоплены акцыяй вывазак на прымусовыя работы ў ІІІ Рэйху. Зборным пунктам вывазак грамадзян Польшчы быў пляц у Беластоку, на якім пасля вайны доктар А. Бахарэвіч, ужо як дырэктар Ваяводскага ветэрынарнага цэнтра, правёў пабудову аб'ектаў для ваяводскай ветэрынарыі. Анатоля на кірмашы нявольнікаў у Біскупцы выбраў баўэр з Барташыцаў, дзе працаваў да пачатку 1945 года. Шчасліва перажыў няўдалыя ўцёкі ад баўэра і вывазку на фартыфікацыйныя працы ў Тыльзіце і будаўнічыя работы ў Кёнігсбергу, які атакавала савецкая армія. Пасля пераходу фронту праз Усходнюю Прусію вярнуўся шчаслів дахаты, працаваў на гаспадарцы. Неўзабаве стаў старацца аднавіць вучобу ў Беластоку. У гімназіі і мужчынскім ліцэі № 2 кончыў прыспешаную вучобу, атрымліваючы вельмі добрыя вынікі на атэстаце сталасці на пачатку 1946 года. Меўшы вялікія здольнасці з прыродазнаўчых прадметаў, стараўся паступіць у Варшаўскую палітэхніку — на жаль ад студзеня 1946 г. ужо працягваўся акадэмічным год, а набор на першы курс быў ужо закрыты. Новым шанцам была новая вучэльня ў Вроцлаве — універсітэт і політэхніка. Але і тут набор на сцісльія факультэты быў ужо завершаны. На шчасце, у ye рамках з 1 лістапада быў адкрыты Факультэт ветэрынарнай медыцыны, там і пачаў вучобу ў навукоўцаў з даваеннай Акадэміі ветэрынарнай медыцыны ў Львове. У час вучобы Анатоль вылучаўся пільнасцю і працавітасцю, незвычайнай актыўнасцю і зацікаўленасцю да даследчыцкай працы. Як студэнт-валанцёр супрацоўнічаў з Кафедрай агульнай гадоўлі, а чатыры гады быў віцэ-старшынёю навуковага кружка ветэрынарных медыкаў. Належаў да першага году выпускнікоў Вроцлаўскага факультэта ветэрынарнай медыцыны, з дыпломам лекара ветэрынарыі, які атрымаў 24 кастрычніка 1950 года.

Пасля вышэйшай школы пачаў працу ў Сыцаве каля Вроцлава, як кіраўнік Павятовай лячэбніцы для жывёл. Неўзабаве (у 1951 г.) прызвалі яго ў армію. Афіцэрскае абучэнне адбыў у Пулавах, адкуль выслалі яго ў часць у Бартошыцах. Пяць гадоў выконваў там розныя функцыі, дайшоў да рангу капітана. Вайсковую службу кончыў будучы эпізаатыёлагам у часці ветэрынарнай службы Галоўнай інтэндэнтуры ВП. Кастрычніцкая адліга 1956 года дазволіла яму вярнуцца на цывільную працу ў ветэрынарыі.

Пачаў яе 8 сакавіка 1957 г. у Міхалове. Пасля 4 гадоў, з 1 сакавіка 1961 г. быў прызначаны на пасаду Ваяводскага лекара ветэрынарыі і дырэктара Ваяводскага ветэрынарнага цэнтра. На гэтай пасадзе працаваў больш за 20 гадоў, да 1982 г. У сваёй працы заўсёды вылучаўся саліднасцю і кампетэнтнасцю. Атрымаў адзнаку, якая існуе ад 1966 года, за «ўзорную працу ў ветэрынарнай службе» з білетам з нумарам 1. У час дырэкцыі ў ВВЦ мадэрнізаваў матэрыяльную базу ветэрынарыі, вёў студэнцкія практыкі і стажыроўкі ды навуковыя даследаванні. Дзякуючы адпаведнай арганізацыі Беластоцкае ваяводства ў 1963 г. было ўжо свабоднае ад туберкулёзу быдла, а ад энтазаатычнай лейкеміі — ад 1984 г. Працаваў над пытаннем «Даследаванні над прымяненнем абязбольваючых сродкаў пры запаленні вымя ў кароў», якое было звянчанае атрыманнем у 1968 годзе ў Вроцлаве навуковага звання доктара ветэрынарных навук. Праз розныя формы падтрымкі даследчыцкай актыўнасці ветэрынараў, дадатковыя фонды на лабараторныя працы і асабістую падтрымку даў магчымасць сваім 32 супрацоўнікам здабыць ступені дактароў навук.

— Адданасць на гэтым палетку была асаблівай жыццёвай і прафесійнай місіяй доктара Бахарэвіча, — кажа прафесар Павел Сыса з Галоўнай школы вясковай гаспадаркі ў Варшаве. — Гэтая дзейнасць, накіраваная на павышэнне кваліфікацыі, здабыванне добрых вынікаў працы і фармаванне сяброўскіх адносін у прафесійным асяроддзі, звяртаючы ўвагу на неабходнасць захавання высокіх крытэрыяў працы, добра ўплывала на кансалідацыю ветэрынарнага асяроддзя на абшары ўсёй краіны. Развіваў ён таксама свае арганізацыйна-грамадскія захапленні. Быў суарганізатарам Музея ветэрынарыі ў Музеі сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы, дакументаваў творчую даследчыцкую працу сваіх калег-ветэрынараў. Як чалавек шляхетны, справядлівы і прыстойны заўсёды сустракаўся з павагай сваіх калег і грамадства.

З усіх адзнак, медалёў, дыпломаў і падзяк ад дзяржаўных і прафесійных улад, да найважнейшых належаць Кавалерскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы, Залаты крыж заслугі, медалі за заслугі для абароннасці краіны і для ветэрынарыі, медаль імя Кшыштафа Клюка, за доўгае жыццё ў сужонстве і медаль Святога Ізыдара-Ратая, патрона сялян.

— А мае найлепшыя дасягненні — двух сыноў, шасцёра ўнукаў і васьмёра праўнукаў, — цешыцца юбіляр.

— Юбілей гэтага нестара польскай ветэрынарыі, — расказвае даследчыца творчасці, між іншых, нашых «белавежцаў» прафесар Тэрэса Занеўская, — у цудоўным палацыку Чарнецкага ў Паросьлым сабраў больш за дзвесце асоб з усёй Польшчы. Юбіляр трымаўся зухавата і прэзентаваўся як сапраўдны пераможца. Выйграў ён жыццё, таму што перамог старасць, будучы ў ёй вялікім. Запрашэнне на ягонае свята аздобіў ліст аканта, сімвал добра выкананага задання.

Сустрэнем спадара Анатоля на самых розных культурных, перш за ўсё беларускіх мерапрыемствах. І не падумаеш, што гэта «сеньёр». І многа яшчэ нам усім можа расказаць. Можа, пара таксама яму спісаць мемуары, як яго аднагодку і сябру Віктару Шведу?

**Міра ЛУКША**

## У латышскіх беларусаў

У ліпені бягучага года фальклорны калектыў «Нараўчанкі» з Нараўкі гасцяваў у Латвіі ў Дагдскім краі, дзе жыве многа беларусаў. Мясцовыя беларусы з горада Дагда з 9 ліпеня арганізавалі фестываль беларускай песні, на які запрасілі нашых «Нараўчанак». Прыехалі ў Дагду беларускія гурты з усёй Латвіі, Літвы, з Беларусі — з Віцебскай вобласці. У рэпертуары ўсіх калектываў была абавязкова патрыятычная песня. «Нараўчанкі» праспявалі чатыры песні і атрымалі многа апладысментаў. Гледачам спадабалася «Песня мая» на словы Мікалая Варанецкага з музыкай Пятра Скепкі. На гэтай урачыстасці афіцыйна гучала беларуская мова.

У горадзе Дагда большасць людзей гаворыць па-руску. Мясцовы шафёр сказаў мне, што рускамоўныя жыхары з'яўляюцца тут большасцю. Назвы вуліц і ўсе шыльды напісаны на латышкай мове.

Гаспадары фестывалю сардэчна прымалі гасцей — добра накармілі і напаілі. На наступны дзень «Нараўчанак» завезлі ў Кепаўскую воласць, дзе сярод лесу знаходзіцца музей флоры і фаўны пад назвай «Кепа». Латышская «Кепа» вельмі падобная да музея ў Белавежы. Пасля агляду музейнай экспазіцыі экскурсанты з Нараўкі частаваліся стравамі «Лясных дароў» і зараз потым адправіліся на аўтобусе на Беласточчыну. Латвія трошкі нагадвае польскія Мазуры. Тут многа ўзгоркаў, лясоў, азёраў. Едучы цераз Літву, затрымаліся ў Вільні, дзе агледзелі Вастрабрамскі касцёл і царкву св. Мікалая. Па велічыні касцёл і царква падобныя.

«Нараўчанкі» задаволеныя нялёгкім падарожжам. З Беласточчыны ў Латвію 600 кіламетраў. Каля 12 гадзін аўтобус едзе ў адзін бок!

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Свята фальклору ў Нараўцы


„Вяснянка"

«Падляшская актава культур» — вялікае свята фальклору. На ім можна захапляцца музыкай, танцамі і абрадамі з розных старон свету. У Падляшскае ваяводства прыехалі фальклорныя калектывы з 24 краін. Слова-ключ гэтага фестывалю гэта разнароднасць.

30 ліпеня гэтага года ў амфітэатры ў Нараўцы Гайнаўскага павета выступілі два вакальна-музычныя калектывы «Васількі» з Гродна (Беларусь) і «Вяснянка» з Роўнага (Украіна) — найлепшыя з гэтых краін свету. Было голасна і калярова, гучала цудоўная музыка і віравалі танцы.

«Васількі» вельмі прыгожа спявалі польскія і беларускія песні ды танцавалі перш-наперш пад гукі акардэона і бубна. Гэты гурт працуе пад кіраўніцтвам Людмілы Войкель. Калектыў «Вяснянка» выконваў самыя прыгожыя фальклорныя ўкраінскія песні. Яны перапляталіся з танцамі. Ансамбль вядзе Віктар Кавальчук. Артысты выступалі ў нацыянальных каляровых касцюмах. А танцоры з «Вяснянкі» сходзілі са сцэны і бралі да танца мясцовых гледачоў. Кожны з калектываў выступаў з гадзінай праграмай, насычанай мілагучнай музыкай ды вясёлым спевам.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

з☆рка
для дзяцей і моладзі

# Зорка чакае вашых пісем!

«Зорка» вядомая ўсім маладым людзям, якія ведаюць беларускую мову. Мы чытаем яе з вялікай ахвотай. Не менш цікавая гісторыя рубрыкі для дзяцей у «Ніве».

Мы заглянулі ў архіў газеты і ў першым нумары прачыталі:

*«Добры дзень, дзеці! Ведаем, што вы ўжо з нецярплівасцю чакаеце сваёй газеты. Вось вам першы нумар яе. Назвалі мы яе «Зоркаю», як прапанавала большасць дзяцей. «Зорка» — будзе памагаць вам вучыцца ў школе, будзе вучыць шанаваць сваіх настаўнікаў і бацькоў, любіць мову родную і свой народ. Яна ўсюды будзе вашым найлепшым сябрам, будзе расказваць казкі, гаварыць вершы, апавядаць розныя цікавыя рэчы, адказваць на вашы пытанні. Няхай «Зорка» асвятляе ваш жыццёвы шлях! Чытайце яе, дзеці, і пішыце, як вам падабаецца і аб чым яшчэ хацелі б, каб было ў ёй напісана, пішыце аб сабе, аб школе. «Зорка» чакае вашых пісем!»*

Такімі словамі ў першым нумары «Зоркі» ў 1957 годзе заахвочваў да яе чытання галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі. «Зорка» — дадатак «Нівы» для дзяцей і моладзі на працягу гадоў мянялася. Шмат гадоў яна выходзіла асобнай кніжачкай. У кожным нумары былі конкурсы, у якіх можна было выйграць узнагароды. Сілай «Зоркі» ў мінулым была рубрыка «Пазнаёмімся».У ёй друкаваліся здымкі і адрасы дзяцей, з якімі можна было перапісвацца. Дзякуючы ёй многія дзеці з Падляшша мелі сяброў у СССР.

Па сённяшні дзень «Зорка» і «Ніва» дапамагаюць у вывучэнні беларускай мовы. Ёю карыстаемся на ўроках беларускай мовы. Нягледзячы на час і абставіны, вучні, як ніколі, дасылаюць многа лістоў. Важнае месца на старонках займаюць творы дзяцей і моладзі.

Гісторыю «Зоркі» расказаў нам галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа. Ён прачытаў шмат допісаў дзяцей з 50-х, 60-х, 70-х і 80-х гадоў. Многія допісы былі вельмі смешныя.

Наш госць прапанаваў яшчэ песні беларускіх класікаў пра зорак. У такой файнай форме мы пазнаёміліся са шматгадовай гісторыяй «Зоркі».

**Наталля ВАСЬКО,**
*«Зорны шлях»*, ІІ клас Гайнаўскага белліцэя



Фота ГК
Іванка Карсунскі чытае свой верш



Фота ГК
Наталька Васько ў цэнтры

## Вершы Віктара Шведа



### Лагічныя разважанні

— Ідзем, Міхаська, дахаты,
Дык ужо па сёмай.
— Адлупцуюць, вінаваты,
Спазнішся, вядома.

Я вярнуся а дзесятай,
Вячэрняй гадзіне.
Будзе цешыцца мой тата,
Што я не загінуў.

### Чатыры бранявікі

Прыехаў унучак Якаў
Да дзядулі ў вёску.
— Дзедка, а дзе сабака,
Што быў папросту боскі?

— Бранявікоў чатыры
Тут праязджала, унусё,
І наш сабачка шчыры
Пабег і не вярнуўся.

* * *

Скажы мне, народ,
Каму мы патрэбны?
Чаму пакідаем сваю зямлю?
Чаму пакідаем нашу родную мову?
Пусцеюць родныя вёскі,
Палі і лугі пустазеллем зарастаюць,
Скажыце мне, скажыце!
Чаму забываем аб нашых каранях?
Беларусы Падляшша!
Давайце збярэмся і з песняй прыгожай
Працаваць пойдзем.

**Крыстыян Паскробка,**
**«Зорнымі вачыма»**

### Туга

Тужу па Табе!
Ты — цэлы мой свет.
Чаму Ты там, а я тут?
Мы павінны быць разам,
Мы — гэта адно!

**Оля Зінкевіч, «Парнасік»**

## УВАГА КОНКУРС! № 33-16

### Загадкі з роднай хаткі

Па каранях, як па ступеньках,
Бясстрашныя – ці ноч, ці дзень –
Палезлі рабыя а......
На заімшэлы вольхі пень.
А......

(Кастусь Цвірка)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 21 жніўня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 29: курка. Узнагароду, майку з беларускім узорам, выйграла Вікторыя Божка. Віншуем!**

№ 33 [14-08-2016]

# Інуіты не баяцца холаду!

Інтэрв'ю з ***Асяй Кандрацюк-Бро,*** падляшскай настаўніцай, якая пяць гадоў навучала інуітаў на поўначы Канады.

**«Зорнымі вачыма»:** — *Ці Вы калісьці спалі ў іглу?*

**Ася Кандрацюк-Бро:** — Па шчырасці, я сама не спала. Але я наведала іглу, заходзіла ўсярэдзіну і мне было вельмі, вельмі холадна. У мяне ёсць суседка, якая займаецца экстрэмальнымі відамі спорту і яна сапраўды спала ў іглу. Інуіты не баяцца холаду, яны нармальна спяць у снежнай хатцы, якую ацяпляюць адмысловымі лямпачкамі з тлушчу кіта, таму яны не мерзнуць.

**ЗВ:** — *Што Вам найбольш пасмакавала на поўначы Канады?*

**АК-Б:** — Пакаштавала я сырую рыбу. Жывучы там, мне трэба было палюбіць гэтую страву. Найбольш смачны арктычны ласось. Гэтая рыба найбольш смакуе марожаная. Яе трэба скрэбці нажом і есці танюткімі скрылікамі...

**ЗВ:** — *Ці Вы мелі кантакт з мясцовым насельніцтвам? Як інуіты ўспрымаюць чужых?*

**АК-Б:** — Там, дзе я жыла, мясцовыя прывыклі да чужынцаў. Але інуіты стомленыя гэтым, што ўвесь час да іх прыязджаюць новыя людзі. Калі мы ехалі на поўнач, думалі, што застанемся там толькі год. Атрымалася так, што мы жылі ў сваім пасёлку не адзін, а пяць гадоў. Нашы дочкі хадзілі там у прадшколле, дзякуючы гэтаму мы пазнаёміліся з бацькамі сяброў нашых дачушак. Мы хадзілі разам на пікнікі, сустракаліся. Так што яны прынялі нас вельмі добра. Гэтыя людзі ведаюць, што настаўнікі прыязджаюць толькі на год і таму мяркуюць, што не варта завязваць знаёмства на такі кароткі час. Інуіты лічаць, што не важна, што чалавек гаворыць, важна, што ён робіць. Як і ў нас, у іх ёсць фейсбук і мы з імі далей трымаем сяброўства, перапісваемся.

**ЗВ:** — *Ці яны арганізуюць такія Сустрэчы «Зоркі»?*

**АК-Б:** — *(Смех).* Не, але ў школах рэалізуюць шмат розных праектаў. Прыязджаюць розныя людзі, напрыклад, рэжысёры. Яны запрашаюць дзяцей да ўдзелу ў фільмах. Нават мы выдалі кніжку са здымкамі з таго праекта.

**ЗВ:** — *А як Вы пазнаёміліся са сваім мужам-канадцам?*

**АК-Б.:** — Калі я была ў гайнаўскім беларускім ліцэі, мела магчымасць паехаць вучыцца ў Мінск у Лінгвістычны ўніверсітэт. Там вучыліся людзі з розных краін свету, між іншым і мой цяперашні муж. Такім чынам мы пазнаёміліся.

**ЗВ:** — *Ці Вы ведалі мовы, на якіх размаўляюць у Канадзе?*

**АК-Б:** — Калі я была ва ўніверсітэце, я вывучала англійскую і беларускую мовы. На трэцім курсе нам дабавілі яшчэ французскую. Я не хацела яе вывучаць. Мела такую магчымасць, каб выпісацца, і так зрабіла. Аднак не мінула два тыдні, калі я пазнаёмілася з маім будучым мужам — французам. Тады я купіла падручнік «Французская мова ў 30 дзён» і пачала яе вывучаць.

**ЗВ:** — *Як Вы святкуеце Каляды і Вялікдзень?*

**АК-Б:** — Мы святкуем два разы, каталіцкія і праваслаўныя святы. Нават смяемся, што як нейкая страва не ўдасца або аб чымсьці забудзем, у час другіх святаў можам выправіць усе недахопы.

**ЗВ:** — *Ці цяжка было Вам развітацца з радзімай? Ці Вы з ахвотай вяртаецеся на Падляшша?*

**АК-Б:** — Заўсёды з ахвотай і вялікай узрушанасцю я сюды вяртаюся. Нават не ведаю чаму, але калі самалёт прызямляецца ў Варшаве, я заўсёды пачынаю плакаць. Тут ёсць мая сям'я і заўсёды цяжка развітвацца.

**ЗВ:** — *Ці Вы маеце для нас нейкія парады, калі мы паедзем у іншую краіну?*

**АК-Б:** — Думаю, што адукацыя ў Польшчы на высокім узроўні. Калі Вы даяце сабе раду тут, напэўна і дасце раду ў любой краіне.

**ЗВ:** — *Дзякуем за размову!*

Інтэрв'ю пры адмысловых лямпачках ад смартфонаў (якраз прапаў электраток і трэба было скласці газету) перапісала ***Оля Буслоўская.*** А святло далі ***Веранікa Кардзюкевіч, Крыстыян Паскробка, Агата Усціновіч і Магда Бяляўская.***

Ася Кандрацюк-Бро з сямейкай, фота з архіва Г.К.

## Сяброўскі гараскоп, паводле інуіцкай традыцыі

(што чакае рэдакцыю «Зорнымі вачыма»?)

**Рыбы: (Вераніка) 20.02-20.03**
Віка ўжо другі раз з'яўляецца галоўным рэдактарам сустрачанскай газеткі. Яна ў будучыні стане галоўным рэдактарам тыднёвіка «Ніва».

**Рыбы: (Агнешка) 20.02-20.03**
Агнешка на сустрэчах першы раз. Зоркі на небе (ды не толькі) паказваюць, што яна будзе развівацца і ў наступным годзе прыедзе на Сустрэчы «Зоркі».

**Авен: (Крыстыян) 21.03-20.04**
Крыстыян будзе сусветнай славы акцёрам, вядома, калі далей будзе развіваць свае здольнасці.

**Цялец: (Магда) 21.04-20.05**
Магда выдасць уласны зборнік вершаў. Яна стане выдатнай паэтэсай.

**Цялец: (Эва) 2.04-20.05**
Зоркі не хацелі рассакрэціць яе будучыні, аднак ведаем, што яна будзе шчаслівай.

**Рак: (Уля) 22.06-20.07**
Спадарыня Уля будзе мець многа дзяцей і многа ўнукаў.

**Леў: (Оля) 23.07-23.08**
Оля стане журналісткай. Яна будзе браць інтэрв'ю ў славутых людзей.

**Казярог: (Лена) 22.01-20.01**
Лена стане графікам «Зоркі» і будзе мець многа грошай.

Гараскоп прыдумалі **Агнешка Зданоўская, Оля Буслоўская і Лена Сульжык з рэдакцыі «Зорнымі вачыма».**

## Мары

**Аб чым мараць людзі?**
**Аб спакоі на свеце,**
**Аб узнагародзе,**
**Аб свабодзе,**
**Аб прыгожасці.**
**Аб чым мару я?**
**Аб гарбаце з сям'ёй**
**У адным пакоі,**
**Пры адным стале,**
**Калі ўсе пры мне.**

**Наталля Васько, «Зорны шлях»**

## Польска-беларуская крыжаванка № 33.16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 29:**
Ява, фін, парк, мастак, ля. Торт, фэст, птах, ток, ліпа. Ліфт, імя, яна, стэп, тост, партал, факт, кніжка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Cha!
Nazwa
Chmura
Strona internetowa
Raj
Saga
Grzywa
Kotka
Zajączek
Oko
Wójt
O!
Szach i ...
Nie
Ar
Show
Baletnica
Bierz

# Белагорская эміграцыя

**Некалькі драўляных хатак цесна прылягае да вузкай, пясчанай вуліцы. Стаяць яны настолькі блізка, што заглядаюць сабе ў вокны, у гаршкі на пліце, у кішэні. Хата пры хаце, брат пры браце. Так спакон вякоў тут жылося. Белагорская філасофія суіснавання зразумелая толькі мясцовым старажылам, прыезджым — зусім неўспрымальная. Адных і другіх тут зусім мала. Застаўся яшчэ гаспадар, які жыве са старой мамай, без жонкі, без дзяцей, без будучыні. На канцы вёскі стаіць хата Гарбузоў. Пабудаваў яе дзед Віталя Гарбуза, Сцяпан Дзядэль. Побач старой, абабітай бэжавым сайдынгам хаты, сучасная альтанка і гушкалкі — асноўныя атракцыёны для з'язджаючых сюды на выхадныя ўнукаў.**



Віталь Гарбуз

Цёплы нядзельны поўдзень. Пад ялінай, у святочнай, сіняй кашулі і шэрых, касцюмных штанах, скрываецца спадар Віталь, 1931 года нараджэння. Святкуе целам і душой, тым больш, што ўнукі ў хаце, а заўсёды чаканыя госці на панадворку. Лёгка калышацца на сваёй гушкалцы пад абыякавыя гукі старога, незмазанага металу. Спакойны, бяспечны, быццам у бабулінай калысцы. Ва ўласнай краіне, на ўласным панадворку, пад уласнай хатай.

Адзін з нешматлікіх, якому пашанцавала ўзмацняцца жыццядайнай спадчынай, співаць салодкі сок зямлі продкаў.

## «Прэдставіцелі»

Вядома, шмат хто не вярнуўся з бежанства, але ў саракавых гадах дваццатага стагоддзя жыло тут яшчэ трыццаць двух гаспадароў. Трыццаць дзве шматлюдныя, шматпакаленныя сем'і. На ўсход вербавалі іх рускія. Так прынамсі думае Віталь Гарбуз. Кармілі абяцаннямі пра добрае, заможнае жыццё ў Савецкім Саюзе. Угаворваць пачалі познім летам 1944 года. Перазімаваўшы, закончылі сваю акцыю недзе ў траўні наступнага года. Кватаравалі ў школе ў Крушынянах. У Белагорцы хадзілі пехатою. Па адным альбо двух, без мундзіраў. «Прэдставіцелі» — так іх называлі — наведвалі толькі беларусаў, палякаў не чапалі.

— Не ведаю як гэта яны дайшлі, хто з нас паляк, а хто беларус? — здзіўляецца спадар Гарбуз.

Адзін з таварышаў, Дзядзюлін, паводзіў сябе надта акуратна, культурна. Спадар Віталь асабліва запамятаў яго казацкую, авечую шапку-кубанку, падарунак ад цёткі — выдатнай белагорскай краўчыхі. Прадстаўлялі канкрэтныя прапановы. У 1944 годзе, зараз пасля фронту, які прайшоў, між іншым, праз Белагорцы, мабілізавалі ў польскае войска. Юнакоў перавозілі на зборны пункт у Беласток. Карыстаючыся кепскім палітычным становішчам польскай дзяржавы, змабілізаваныя, у тым ліку белагорскія рэкруты, дэзерціравалі.

— Пераедзеце да нас і праз два гады не возьмуць вас ні ў польскую, ні ў нашу армію, — абяцалі «прэдставіцелі».

Гаспадароў манілі двухгадовым звальненнем ад платы абавязковых кантынгентаў.

## У нямецкай няволі

У тым жа 1944 годзе вызначылі новую польска-савецкую мяжу, якая дзейнічала да 1948 года. Забрала яна луг і трэцюю частку Гарбузавага поля. Столькі ж патрыцаілі і ўсе астатнія гаспадары. Не верылі, што нехта адбярэ ім іх уласную зямлю. Нягледзячы на забарону, пайшлі абсяваць свае сціплыя палоскі. Сабраць плёну ўжо не атрымалася. Рашыліся на пераезд. У Сцяпана Дзядэля было ў той час чацвёра дзяцей: Валодзя, Косця, Віця і Оля. Двое загінула на вайне. Прыгажуна Колю пагналі ў Нямеччыну, у горад, які сёння называецца Кентшынам. Паехаў туды разам з Соняй Навумуковай і Колем Зелянкевічам. Соня папала на гаспадарку да нямкіні, хлопцаў адаслалі ў цукроўню. Апынуўся там таксама Яшчык з Юраўлян. Цяжка працавалі, кепска елі. Вырашылі ўцякаць. Дайшлі да Літвы. Літоўца, які араў поле, па-польску папыталі пра дарогу ў непадалёкую ўжо Гародню. Той паклікаў жандараў. У гэты раз хлопцы папалі ў канцлагер. Босых ганялі па іржышчы. З цэлай тройкі вярнуўся толькі Яшчык.

## Пераезд

У спіску выязджаючых не было хворага дзядзькі Андрэя Гарбуза і маці спадара Віталя. Бацька памёр яму ў 1942 годзе. Жылі з бабуляй і мамінай кульгавай сястрой, краўчыхай. Разам сабе дапамагалі, выязджаць без мужчыны не рызыкавалі. Да станцыі Валілы везлі на ваенных аўтамабілях, далей ужо чыгункай. Кучынскі загнаў ужо кароў, завёз фуру з сенам. Трое сутак праседзеў на рампе, чакаючы свабоднага вагона. Раздумаўся. Вярнуўся дахаты. «Прэдставіцелі» спрабавалі яго затрымаць, але безвынікова.

Амаль усе пакінутыя хаты згарэлі зімой у печках. Адну перавезлі ў Лапічы. З беларускага боку ў Белагорцы пераехаў толькі адзін паляк па прозвішчы Згода. Пасяліўся за Пятэльскімі. Працаваў у млыне ў Карпінскага, пасля падаўся ў Беласток.

Большасць белагорчан накіравалася ў Гомель і Маладзечна.

— Як ужо пакідаць родную хату, дык толькі дзеля нечага сапраўды лепшага, — падумаў Сцяпан Дзядэль.

У час Першай сусветнай вайны служыў ён у царскай арміі. Быў ранены. Пасля шпіталізацыі адаслалі яго на адпачынак у санаторыю ў Растове. Вельмі спадабаўся яму цёплы клімат і смак тамтэйшага віна. Марыў яшчэ раз адведаць райскі вінаграднік. Нехта з Грыбоўшчыны таксама туды паехаў. Горка расчараваліся. Белагорская радня атрымала толькі адзін допіс з Растова, пры тым не ад Сцяпана а ад яго сына: «Прэдставіцелей усіх жэнець мяцёлкай» — асцерагаў той. У 1945 годзе купілі білет на цягнік Растоў — Маладзечна. Везлі свінчо і яшчэ белагорскую кабылку. Са станцыі Маладзечна пагналі тую ж кабылку ў Паўлюшкі (непадалёк Крынак, па беларускім баку) да пляменнікаў Шуры — жонкі Сцяпана.

## Калгаснае жыццё

У Кавалях пасяліўся Яшчык — добры знаёмы Сцяпана. Падсватаў ім нейкага паляка з падкрынскай Вайцехаўшчыны, які надумаўся пераязджаць на польскі бок. Неўзабаве Сцяпан раскашаваўся вялікай, прыгожай хатай, хлявамі, гумном і ўсім астатнім, пакінутым палякам. Гаспадарылася ім някепска. На жаль, пасля двух гадоў прыйшлося здаваць Вайцехаўшчыну пад калгас. Сцяпан стаў гадаваць калгасных авечак. Цётка Шура, закончыўшы ў час бежанства маскоўскія школы, вяла лабараторыю. Пасля авечак паявіліся быкі. На кожнага быка калгас даваў па пяць кілаграмаў мукі. Знайшоўся і конь. Старшыня калгаса — юрны казак, прыгнаўся вярхом на інспекцыю.

— Дурак ты, Сцёпа, — сказаў, убачыўшы адкормленых быкоў, і пагнаўся назад, пакідаючы за сабой пыл і заклапочанага Сцяпана.

«Што ж, без спірту не разбярэшся», — падумаў Сцёпа. На шчасце спірту ў хаце было пад дастаткам. Папрасіў старшыню быццам дапамагчы жонцы з лабараторыяй. У міжчасе Шура нарыхтавала закуску. Выпіўшы па шклянцы, старшыня прызнаўся:

— Пяць адкормленых быкоў і ніводнага кабана!

— Таварыш старшыня, а чым жа выкарміць гэтых кабанчыкаў?

— Пішы заяўленне, дам больш мукі на быка.

Мукі было столькі, што Сцяпан прадаваў яе на рынку ў Бераставіцы.

## У горад

Захацелася лепшага жыцця. Валодзька — старэйшы сын Сцяпана, паехаў у Гародню шукаць участак пад хату. Сказаў пра двух братоў, якія згінулі на вайне, і атрымаў тое, што хацеў. Засталося толькі хату з Вайцехаўшчыны перавезці.

— Хату трэба скласці ў дзве гадзіны, — параіў Сцяпану пракурор. — Твой сын на лесавозе працуе, у яго дружок ёсць, прыедуць дзвюма машынамі і хату забяруць.

— А як не разабраць у дзве гадзіны, таварыш пракурор?

— Ідзі да Спудзвіл, запрасі людзей у госці. Добра іх накармі, напаі, а тады яны самі табе гэту хату разбяруць.

Так і было. Спудзвілы — вёска даволі вялікая. Хто за печкі, хто за крышу ўзяўся. Праз ноч і разабралі. Ад'язджаючы ў Гародню, грошы за свіней і быкоў Сцёпа завязаў у хустачку.

Не мінулі два тыдні, а новая, чатырохпакаёвая хата ўжо стаяла.

Спадар Віталь гродзенскіх сваякоў упершыню наведаў у 1957 годзе. У Белагорцах нават кала ў зямлю ў той час не забівалі. А ў Гародні паспелі пабудавацца Дзядэлі, Навумукі, Зелянкевічы. У горадзе жылося тады нашмат лягчэй, чым на вёсцы. Дзядзька Сцяпан першапачаткова працаваў старажам у сельскагаспадарчай школе ў Ласоснай. Пасля старажаваў у новапабудаванай гродзенскай жалезабетоннай фабрыцы. Старэйшы сын Валодзя грузавіком ездзіў, а сярэдні Косця вывучыўся на пракурора. Пасля інстытута адаслалі Косцю ў глыбокую Расею выхоўваць людзей, якія не падчыняліся савецкай уладзе. Потым накіравалі яго на працу ў палескае Поразава. У Белагорцы прыязджаў даволі часта разам з маткай Шурай. На жыццё ў Саюзе ніколі не наракалі.

На жаль, кантакт спадара Гарбуза з гродзенцамі перарваўся. Усе хлопцы паўміралі. У жывых засталася толькі адна сястра Оля.

**Тэкст і фота Іааннына ЧАБАН**

# Хто ехаў?

**Была гэта адзіная беластоцкая чыгуначная лінія, па якой мне не ўдалося праехаць. Думалася мне калісь, думалася, але неяк так думка не была даведзена да практычнага завяршэння. І вось зноў нясмела рушылі па ёй паязды, быццам урачыста, па нядзельках і суботах.**








Забраўся і я ў тое падарожжа, бо лепш позна чым ніколі. Падарожжа падалося цалкам цікавым. Пры выездзе з Фабрычнай станцыі Беластока цягнік спыніўся, яго праваднічка выскачыла з поезда і ўласнаручна пераваля стрэлкі на адпаведны пуць. Выглядала гэта быццам у абставінах нейкай рэвалюцыі, калі ва ўмовах агульнага хаосу трэба спасылацца на свае сілы. Праваднічка вярнулася ў поезд, крыху пад'ехала і зноў поезд спыніўся — перад пераездам цераз Баранавіцкую шашу. Калісь там былі шлагбаўмы, а цяпер ролю шлагбаўма прыняла на сябе праваднічка, спыніла аўтамабільны рух і поезд пакаціўся далей...

Мечыслаў Арловіч, аўтар міжваеннага праваднікa па тадышнім Беластоцкім ваяводстве, так пісаў пра гэтую лінію: „Jest to część linii kolejowej Białystok — Stołpce (Warszawa — Moskwa), położonej na terenie województwa białostockiego. (...) Z głównego dworca w Białymstoku skręcamy w kierunku wschodnim, porzucając linię kolejową do Wilna. (...) W dalszym ciągu biegnie pociąg przez lasy dawnej Błudowskiej Puszczy, wśród których leżą dwie następne stacje". Першай з іх Кур'яны на 14-м кіламетры, а наступнай Жэдня: „Żednia (24 km), stacja wśród lasów. 12 km na południowy wschód leży osada Michałowo, siedziba gminy posiadającej 6.000 mieszkańców, w tym 2.215 katolików, 732 żydów, 2.741 prawosławnych, przeważnie Białorusinów i 190 Niemców. Targi w poniedziałki i czwartki, jarmarki 10-go każdego miesiąca".

Чарговай станцыяй у праваднікy былі Валілы, але я туды не паехаў, злезшы ў Саколі, пра якое ў Арловіча згадкі няма, так як і пра Заязерцы. Народу ехала памяркоўная колькасць, пераважна на ўік-энд да сямейнікаў — па дзве-тры асобы злазіла на станцыі. Грыбнікоў не было відаць, мабыць таму, што поезд адправіўся з Беластока адносна пазнавата — у дзевяць гадзін раніцы.

Крыху раней па гэтай лініі праехалася Міра Лукша, згадваючы пра некаторых канкрэтных — важнейшых — пасажыраў. Мне такое не пашанцавала, але я так стаў думаць таксама пра важнейшых пасажыраў на гэтай лініі, але ў далёка мінулым часе...

Лінія з Беластока ў Ваўкавыск, так як і большасць нашых чыгунак, была пабудавана ў царскі час. Ці мог па ёй ехаць цар, цар Мікалай II? Здаецца гэта быць мала верагодным. У Белавежу ездзіў ён з Пецярбурга цераз Гродна і Беласток. Наведаў ён Белавежу і ў 1915 годзе, калі знаходзіўся паблізу лініі фронту, аднак ён тады не цягніком прыехаў, толькі карэтай з боку Пружан.

21 жніўня 1921 года па чыгунцы з Ваўкавыска ў Беласток праехаў сам маршалак Юзаф Пілсудскі. Беластоцкае начальства выбралася вітаць яго аж у Ваўкавыск, аднак прывітанне не атрымалася, бо Дзядэк там прыснуў; абудзіўся ён у Жэдні. На станцыі ў Ваўкавыску аркестр грымнуў быў Мазурку Дамброўскага, аднак той аркестр пасля першых тактаў прыцішылі. У Беластоку ўсё вітанне Маршалка адбывалася ўжо з візантыйскай пампезнасцю...

У ліпені-жніўні 1945 года ў Патсдаме адбывалася канферэнцыя кіраўнікоў Вялікабрытаніі, ЗША і СССР. Вядома, што Іосіф Сталін прыехаў на гэтую канферэнцыю поездам, толькі не ўся траса ягонага праезду рассакрэчана. Маскоўскія крыніцы згадваюць пра Мінск і Баранавічы, а пасля ўжо пра мост на Одры. А кудою ён ехаў з Баранавіч?

Паміж захадам і ўсходам Еўропы ёсць адна тэхнічная розніца — розніца ў колавай базе чыгуначнага транспарту — розныя адлегласці паміж рэйкамі. Поезд Сталіна павінен быў праехаць непасрэдна з Масквы ў Берлін, без ніякіх перасадак галоўнага пасажыра. Дзеля гэтага савецкія ваенныя чыгуначнікі перабілі польскія і нямецкія пуці перамяшчэння Сталінавага поезда на маскоўскі стандарт. Пытанне: якія пуці?

Вядома, што найбольш аддалены на ўсход камандны пункт Гітлера знаходзіўся ва Усходняй Прусіі каля Растэнбурга — сённяшняга Кентшына. І туды фюрар прыязджаў з Берліна спецыяльным браняпоездам, для праезду якога напэўна была створана адмысловая чыгуначная інфраструктура. Чаму ж бы не было пакарыстацца ёю Сталіну, заміж рызыкаваць праезд цераз цэнтр бунтарскай Польшчы? Да таго ж, перашыццё Гітлеравай лініі на маскоўскі стандарт было чарговым актам, хай сабе ўжо толькі сімвалічным, але актам перамогі, чарговым актам прыніжэння нядаўняга саюзніка; нешта накшталт дачыненняў пераможных Сталінавых ваякаў з нямецкімі фрэйлінамі. Таму мне здаецца, што Сталінаў поезд паехаў з Баранавіч цераз Беласток і Кентшын; і тым жа самім шляхам і вярнуўся. Да гэтага тэзісу здаецца быць адна вельмі загадкавая падказка: у Свіслачы, няпоўных дзесяць кіламетраў ад разглядванай лініі, узведзены помнік Генералісімусу...

Ну а Гітлер? Ці не ездзіў ён сваім браняпоездам на Усходні фронт? Напэўна па шляху між Беластокам і Ваўкавыскам было гэта вельмі небяспечна, бо тут побач Страшава і Дзернякова дзейнічалі падкамандныя Панцеляймона Панамарэнкі, якія ўзрывалі чыгуначныя лініі, найахвотней з праязджаючымі па іх эшалонамі; на захадзе Еўропы змаганне з чыгуначным транспартам вялі авіятары, скідаючы бомбы на паравозы. Таму Гітлер лятаў на ўсход самалётам. У палове сакавіка 1943 года быў ён на камандным пункце Вермахта каля Смаленска. Там на яго зладзілі замах, падаючы ў самалёт пасылку, у якой была схавана бомба. Аднак з прычыны нізкай тэмпературы не дайшло да ўзрыву і замах не ўдаўся. Гісторыя пра смаленскі замах была адгарэта некалькі дзясяткаў гадоў пазней, толькі ў зусім іншым антуражы...

Злез я з поезда ў Саколі і падаўся далей блудзіць па жвіроўках даўняй Блудаўскай пушчы. Жвіроўкі тыя прамалінейныя, пракладзеныя, па ўсёй верагоднасці, лясныімі ўладамі. І невядома, куды я заблукаўся б па тых лабірынтах, калі б у адзін момант на маім шляху не паказалася агароджа ляснога гадавальніка; трэба было асадзіць назад. І так я трапіў на езджалую дарогу, аднак не была яна прамалінейная, толькі перасякала лес паводле выгады найпершых яе першапраходцаў. Дарога тая, калі я зверыў яе напрамак з сонцам, здалася агульна пралягаць па лініі Кракаў — Вільня, паміж сталіцамі Кароны і Княства... А вядома ж, што ў часах Ягайлавічаў вялікія віленскія князі былі адначасна і гаспадарамі ў Кракаве. І ніякая тайна, што яны час ад часу ездзілі то туды, то сюды.

У прынцыпе ездзілі Ягайлавічы з Кракава цераз Люблін. Цераз тутэйшыя землі каралі Рэчы Паспалітай падарожнічалі двума маршрутамі, абмінаючы Белавежскую пушчу то з усходу, то з захаду. Першая траса праходзіла цераз Берасце, Камянец, Шарашова, Поразава, Ваўкавыск, Масты і Шчучын. Другая пралягала цераз Міжырэч, Мельнік, Бельск, Нарву, Крынкі і Гародню. Адрэзак з Нарвы ў Крынкі і праходзіў менавіта цераз Блудаўскую пушчу; магчыма праз Жэдню, Саколе, Валілы...

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага пра Камянец: „Po ustaleniu władzy Witowda w Litwie, został jeszcze Kamieniec na długo ważnem miejscem obronnem, gdzie nieraz Jagiełło i Witowd zjeżdżali się dla narady i dla łowów. Tu r. 1409 stawił się w początku grudnia przed królem, z którym był i Witowd, posłannik Aleksandra V z bullą, w której, donosząc o swoim prawnym wyborze na stolicę Apostolską, i o zjawieniu się dwóch anty-papieżów, wzywał króla, aby się nie wahał uznać go za głowę kościoła. Kazimierz IV w przejeździe do Litwy zatrzymywał się tu, zabawiając się polowaniem". Пра Нарву: „Musiał tu być zamek lub dogodny dwór, skoro zatrzymywał się w N. po dni kilka Zygmunt August w przejeździe do Litwy". Пра Крынкі: „Tu król Władysław Jagiełło na prośby usilne Zygmunta Kiejstutowicza w. książęcia litews., zjechawszy po skończonych łowach w puszczy białowieskiej w początkach marca r. 1434, odnowił jedność Litwy z Koroną i węzłem ją utwierdził. Zygmunt, który mu ze wszystkimi prałatami i panami litewskimi zabiegł drogę w Krynkach, największą mu cześć, jako dobrodziejowi swemu, oddając przy złożeniu bogatych podarunków, błagał, żeby król głębiej do Litwy i zapewne do jej stolicy pojechał; ale Jagiełło nie dał się uprosić, bądź dla podeszłych lat, bądź dla nie ustalonej spokojności zupełnie w tym kraju od Swidrygajły. Układy jednak zamierzone wszystkie przyszły do skutku. Król po załatwieniu tak ważnego dzieła, wrócił się z Krynek do Polski, i wprost do Lublina pojechał. Za drugiej wojny szwedzkiej, Karol XII, chcąc ubiedz Augusta II w zimie r. 1706 w Grodnie z wojskiem swem leże mającego, gdy wysilonym pochodem śpieszył z Polski do Litwy, tu w Krynkach we 12 godzin 7 mil z Zabłudowa uszedłszy z głównym korpusem, d. 12 stycznia t. r. stanął. Wszystkie domy miasteczka zostawiwszy chorym żołnierzom, sam z całem wojskiem pomimo zimna przez jeden dzień i dwie nocy leżał obozem pod szałasami". Чарговы манарх падарожнічаў па Блудаўскай пушчы!

Калі ў пачатку XVII стагоддзя каралі Рэчы Паспалітай перанесліся ў Варшаву, каралеўскі шлях з новай сталіцы перасунуўся на захад: Граннае, Браньск, Бельск, Войшкі, Беласток, Букшталь, Гродна...

Па былой Блудаўскай пушчы вызначана шмат турыстычных шляхоў; адным з іх — Напалеонаўскі шлях. Аднак славуты карсіканец, здаецца, асабіста па ім не падарожнічаў, затое, верагодна, праходзілі тудою ягоныя заваёўнікі. Французы, шведы, немцы, маскалі ды іншыя ваякі там бывалі, пакідаючы пасля сябе далёкія ад радасці адчуванні.

Згаданай раней даўняй лясной дарогай дайшоў я да месца, дзе калісь была невялікая вёска Папоўка. У чэрвені 1943 года падкамандныя Панцеляймона Панамарэнкі ўзарвалі нямецкі эшалон на згаданай раней чыгуначнай лініі. У парадку калектыўнай адказнасці за ўчынены акт 3 ліпеня 1943 года гітлераўцы расстралялі амаль усіх жыхароў гэтай вёсачкі: 36 асоб, у тым ліку 16 дзяцей. Зараз на месцы Папоўкі помнік — статуя маці з дзіцём. На помніку дата 3 чэрвеня, на недалёкім валуне таксама 3 чэрвеня, а ўжо на суседнім стэндзе — 3 ліпеня. Вельмі ж заблытаная наша гісторыя...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Чаромхаўскі фестываль (2)

У нядзелю, 24 ліпеня, а 10 гадзіне пачаўся другі дзень спаборніцтваў за кубак «FAIR PLAY» лігі чэмпіёнаў „Swampions Soccer League" па балотным футболе. Удзельнічала дваццаць мужчынскіх каманд і чатыры жаночыя. Розыгрыш праходзіў адначасова на двух сумежных пляцоўках пры вялікай зацікаўленасці публікі. Спаборніцтва было заўзятае. Патрабавала спрыту і напружанасці, каб перамагчы саперніка. Адно стала пэўным, каманда «Ожэл» Кляшчэлі не абараніла звання чэмпіёна і апынулася на трынаццатым месцы. А вось як выглядае канчатковая класіфікацыя II Спаборніцтва лігі чэмпіёнаў «Swampions Soccer League»:

Мужчыны: 1 — Old Boys Czeremcha, 2 — Dr Tusz Białystok, 3 — Szczuczyn (Białoruś), 4 — Browar Murza Gol, 5 — Banda Swirów Czeremcha, 6 — Pub Brama Białystok, 7 — Foot Ball Heavenlc Chełm, 8 — Kobryń (Białoruś), 9 — BKP Rakovia Gepard II, 10 — Ramis Białystok, 11 — FC Zamuleni, 12 — Siódemka Białystok, 13 — Orzeł Kleszczele, 14 — BKS Roztocze Krasnobród, 15 — OSP Czeremcha, 16 — Ajax International, 17 — Szalone Dziki, 18 — Błotne Orły Błotnowola, 19 — Rycerze Walentyny, 20 — Lambada Choroszcz.

Жанчыны: 1 — Ramis Women, 2 — Błotne Księżniczki, 3 — Babski Team.

Найлепшы стралок — Сяргей Балабанаў, найлепшы варатар каманды Шчучын, найлепшая варатарка каманды «Błotne Damy». Кубак «Fair Play» лігі чэмпіёнаў «Swampions Soccer League» другога выпуску «Чаромха-2016» атрымала каманда Шчучын з Беларусі (**на здымку**).

Але гэта быў не адзіны атракцыён нядзельных святкаванняў. Ад 10:30 сталі даступнымі майстар-класы па румынскіх танцах, лірычным спяванні, вырабах з лямцу, саломапляценні, ганчарстве, мастацкім рукадзеллі, ткацтве і арыгамі. Прэзентаваліся таксама стравы беларускай, мараканскай ды непальскай кухняў. А ў 14:30 адбылася дэгустацыя страў падляшскай рэгіянальнай кухні. Сёлета ў конкурсе сапернічала дваццаць каманд, якія прэзентавалі трыццаць восем страў.


Фота Адама Вілюка

І так: 1 — Моніка Алексяюк — «марцінкі», печаная бульба з грыбамі і паранай капустай, «ягадзянкі» ды капуста з лісічкамі; 2 — Малгажата Алексяюк — пячэнне са скваркамі, 3 — Іаанна Раманюк — галубцы з лісічкамі з печкі, аржаны хлябок «на заквасе», блінцы з ягадамі, блінцы са шпінатам, салодкі пірог з ягадамі, бабка з цукініяй; 4 — Юлія Раманюк — грачаныя аладкі з грыбным соўсам, пячэнне «канверты» з вішнямі, 5 — Ала Сцепанюк — «сэнкачэ», 6 — Валянціна Маркевіч — тушаная бульба з мясам, тварожнік, пячэнне з чарэшнямі, 7 — Крыстына Кас'янюк — бульбяная кішка, бульбяная бабка, паштэт, крывянка, 8 — Гражына Астапковіч — катлеты з фасолі, 9 — Роберт Галамбеўскі — агароднінныя варэнікі, суп-крэм з цукініі, 10 — Віктар Шатыловіч — казіны сыр, 11 — Оля Назарук — тушаная капуста з грыбамі, булачкі з карыцай, 12 — Міхал Назарук — свойская каўбаса, 13 — Анна Назарук — бульбяная бабка, 14 — Агнешка Якімюк — пірог з цёртай бульбай, бульбяная бабка, бульбяная кішка. Рэгіянальныя стравы беларускай кухні запрэзентавала Таварыства «Спадчына» з Высокага. Аліна Васілюк прапанавала аладкі са сліўкамі, Ала Філос — піражкі з капустаю, Галіна Царко — вантрабяны торт, Людміла Кандрацюк — гамбургеры па-дамашняму, Наталля Сафранёнка — сечаныя катлеты, Алена Краўчук — «салодкія мяшочкі».

Ацэнкай страў займаліся варшаўскія майстры па гастраноміі: Ян Курань, Гена Мянткевіч, Збышак Кмец і Іаанна Якубюк, а кампаньёнкай журы была Анэта Куранёва — «добры дух» конкурсу. Журы прызначыла тры першыя месцы і два вылучэнні. У першай катэгорыі ўзнагароду атрымала Агнешка Якімюк за пірог з цёртай бульбай, другое месца — Гражына Астапковіч за катлеты з фасолі, а трэцяе — Віктар Шатыловіч за казіны сыр. Вылучэнні атрымалі Галіна Царко з Высокага за вантрабяны торт, а Агнешка Якімюк — за бульбяную кішку.

Прэзентацыя лаўрэатаў і ўдзельнікаў кулінарнага конкурсу пачалася ў 17 гадзін. У час выступу старшыня журы Гена Мянткевіч канстатаваў: «Цяжка прыходзілася членам журы ацэньваць стравы з так багатага і разнароднага меню. Але непаўторнай стратай для сёлетняга конкурсу быў брак аўсянага кісялю і куцці. Я сам маніў шматлікіх сяброў на гэтыя своеасаблівыя стравы падляшскай кухні. Лічу, што ў наступным годзе гэтыя стравы будуць царыць на конкурсным стале».

Затым былі аб'яўлены вынікі другога выпуску лігі чэмпіёнаў «Swampions Soccer League» і ўручэнне прызоў па балотным футболе.

Завяршальны канцэрт чаромхаўскага фестывалю фолькавых сустрэч «З вясковага панадворка» пачаўся з агляду губных гармонікаў, затым выступіла сямейная капэла Яна Маліша з Малішова і група «Gypsy Ska Orquestra» з шасці чалавек з Венесуэлы. На жаль, не змог я ўдзельнічаць у гэтай музычнай імпрэзе па прычыне ненайлепшага стану здароўя. Ціск крыві нечакана павысіўся і вымушаны я быў вярнуцца дамоў, каб прыняць лякарства. Але канчаткова фестываль не закончыўся. З 25 па 29 ліпеня працавалі майстар-класы па белым спеве, арыгамі, ткацтве, саломапляценні і ганчарстве. За гэта паклапаціліся, разумеецца, арганізатары фестывалю. І за гэта належацца ім словы прызнання і пашаны.

**Уладзімір СІДАРУК**

ARCHE
ПАДПІСКА
СТВАРЫ ЎЛАСНЫ МАБІЛЬНЫ ДАДАТАК БЯСПЛАТНА
ARCHE
Ад рэдакцыі

# http://news.arche.by

У мінулым нумары „Нівы" мы распавядалі пра зменены за адзінаццаць гадоў сайт часопіса і выдавецтва „Архэ". Праўда, уладальнікі часопіса за гэты час не толькі змянілі свой першапачатковы сайт, але і стварылі яшчэ адзін, які цалкам прысвечаны навінам „Архэ" і азначаецца як „Словы і вобразы". Ён месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://news.arche.by** і па выглядзе нагадвае „галоўны" сайт. Разам з тым на ім значна менш прамоцыі і расповедаў пра камерцыйны складнік, затое значна больш цікавых паведамленняў пра навіны выдавецкай справы, даецца магчымасць для разважанняў, праглядаў відэа.

Галоўная старонка сайта зроблена са звычайным, ужо можна сказаць, старадаўнім дзяленнем на дзве часткі. У першай месяцца выйсці на шматлікія рубрыкі, у другой — анонсы розных расповедаў, паведамленняў, абмеркаванняў. Пры чым як галоўная, так і іншыя старонкі сайта аздоблены фотаздымкамі і выявамі выданняў „Архэ".

„Словы і вобразы" добра структураваны. Аб гэтым сведчаць ягоныя рубрыкі „Ідэі", „Навука", „Творы", „Гутаркі", „Апытанні", „Агляды". Кожная з іх мае падрубрыкі, дзе яшчэ больш дэталёва размяркоўваюцца тэксты. Так, у „Ідэях" мы знойдзем інфармацыю, датычную палітыкі, гаспадаркі, медыяў, адукацыі, грамадства, сям'і, адпачынку, рэлігіі, культуры. А, напрыклад, „Творы" ўтрымліваюць вершы, эсэ, аповеды, нататкі, нарысы, успаміны. У „Аглядах" ходзіць пра культуру, кіно, музыку, тэатр, літаратуру, мастацтва, грамадства, навуку, палітыку, рэлігію, медыі, эканоміку і спорт.

Акрамя тэкставай інфармацыі, наведвальнікам прадстаўляецца магчымасць паглядзець відэа, датычнае разнастайных падзей і рэалій жыцця беларускага грамадства. Праўда, пакуль не ўсе падрубрыкі там запоўнены — калі „клікнуць" на некаторыя з іх, то з'яўляецца паведамленне „Даруйце, нічога не знойдзена".

Стваральнікамі сайта прадугледжана магчымасць апублікавання матэрыялаў чытачоў. Праўда, не ўсіх, а толькі тых, хто зарэгістраваўся на партале. Менавіта, яны могуць, зайшоўшы ў рубрыку „Выставіць свой матэрыял", апублікаваць нейкія ўпадабаныя тэксты. Аналагічныя ўмовы прад'яўляюцца тым, хто хоча завесці на сайце ўласны блог — без рэгістрацыі гэтага не атрымаецца.

Цікава, што даны сайт таксама выконвае функцыю дошкі аб'яў. Зарэгістраваным карыстальнікам даецца магчымасць размясціць абвестку пра тое, што яны хочуць прадаць, абмяняць, купіць, прапанаваць паслугі ці паведаміць аб нечым, на іх думку, важным.

Найбольш цікавым з усяго, што месціцца на сайце, падаюцца матэрыялы, змешчаныя ў рубрыцы „Ад рэдакцыі", выйсце на якую знаходзіцца ў верхнім правым вугле цэлага выяўлення. Там уладальнікі „Слоў і вобразаў" прапануюць карыстальнікам найбольш цікавыя з іх пункту погляду тэксты. Зараз у гэтай рубрыцы сярод апошніх матэрыялаў змешчаны некалькі артыкулаў, прысвечаных былому паслу Польшчы ў Беларусі Альжбеце Смулковай, расповед пра старадаўні Навагрудак, пра Брэст 1941 года, некалькі электронных версій часопіса „Архэ".

Але не абышлося на сайце без недахопаў. Так, выйсце на рубрыку „Важна" на галоўнай старонцы не раскрывае нічога, калі на яго „клікнуць" — мы папросту перанакіроўваемся зноў жа на галоўную старонку.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

## Змагар — рыцар Ордэна Калумба

# 120 гадоў з дня нараджэння Янкі Чарапука

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Янка Чарапук нарадзіўся 12 (па старым стылі 24) жніўня 1896 г. у мястэчку Новы Двор на Сакольшчыне. У 1914 г. скончыў прыватную мужчынскую гімназію Відэмана ў Пецярбургу, потым вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ініцыятар стварэння ў Пецярбургу грамадскай культурна-асветнай арганізацыі «Вольныя беларусы». Супрацоўнічаў з украінскімі нацыянальнымі дзеячамі, быў сакратаром пецярбургскага прадстаўніцтва Цэнтральнай украінскай рады. Пазней у Кіеве — супрацоўнік Міністэрства замежных спраў УНР, член Беларускай рады ва Украіне, ініцыятар стварэння партыі беларускіх незалежных рэвалюцыянераў. З канца 1918 г. на Гродзеншчыне, член БПС-Р. Удзельнік Беларускага з'езда Віленшчыны і Гродзеншчыны ў ліпені 1919 г., сакратар Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны і Гродзеншчыны.

Як публіцыст Чарапук друкаваўся ў газетах «Беларусь» і «Родны край» (Гродна), «Наша думка», карыстаўся псеўданімам Змагар. З канца 1919 г. жыў у Рызе, сакратар Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі, сябра Беларускай калоніі ў Латвіі, адначасна дыпламат, кур'ер пры ўрадзе БНР на чале з Антонам Луцкевічам. У снежні 1919 г. кааптаваны ў склад Рады БНР, пасля яе палітычнага расколу прыхільнік урада Вацлава Ластоўскага. 21 снежня 1919 г. у час транзітнага праезду з Берліна ў Латвію арыштаваны літоўскімі ўладамі і на месяц зняволены ў турму. Як паўнамоцны прадстаўнік урада БНР удзельнічаў у канферэнцыі беларускіх сацыялістычных партый (красавік 1920 г.) і канферэнцыі беларускіх дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў (чэрвень 1920 г.) у Рызе. У жніўні 1920 г. узначальваў дэлегацыю БНР на міждзяржаўнай канферэнцыі балтыйскіх дзяржаў. У 1921 г. прызначаны сакратаром Дыпламатычнай місіі БНР у Коўне. У лютым 1921 г. на ковенскай нарадзе прадстаўнікоў БПС-Р увайшоў у ініцыятыўную «тройку» па стварэнні Загранічнага камітэта партыі. Удзельнік Першай Усебеларускай канферэнцыі ў Празе ў 1921 годзе.

З 1922 г. Чарапук на эміграцыі ў Амерыцы, жыў у Чыкага. Ініцыятар стварэння Беларускага народнага камітэта ў штаце Ілінойс (пазней Беларускі народны саюз), адзін са стваральнікаў Беларуска-Амерыканскага нацыянальнага клуба. Падтрымліваў цесныя сувязі з Вацлавам Ластоўскім і Клаўдзіем Душэўскім у Коўне, Тамашам Грыбам у Празе, з грамадскімі і моладзевымі арганізацыямі Заходняй Беларусі і Чэхаславакіі, збіраў грошы для матэрыяльнай падтрымкі беларускага студэнцтва і школьніцтва Заходняй Беларусі. У 1935 г. ініцыяваў стварэнне Беларуска-Амерыканскага грамадзянскага задзіночання. З 1936 г. да пенсіі працаваў у чыкагскай дрэваапрацоўчай кампаніі.

У кастрычніку 1941 г. Чарапук — адзін з арганізатараў Беларуска-Амерыканскай нацыянальнай рады, якая ставіла за мэту дабрачынную дапамогу ахвярам вайны ў Беларусі (існавала да сярэдзіны 1990-х). У пасляваенны час удзельнічаў у грамадска-палітычным жыцці беларускай дыяспары ЗША. Уваходзіў у міжнародную каталіцкую арганізацыю «Рыцары Калумба» (меў вышэйшую 4-ю рыцарскую ступень). Сын Чарапука, Адрыян, загінуў у 1950 годзе ў Карэі. 6 кастрычніка 1955 г. па дарозе на чарговае пасяджэнне «Рыцараў Калумба» Чарапук быў збіты аўтамабілем. Доўга ляжаў у шпіталі і лячыўся. Памёр 16 лістапада 1957 г. у Чыкага, пахаваны на ўкраінскіх могілках.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Віншуем

**Яго Праасвяшчэнства Сімана, архіепіскапа Лодзінскага і Познанскага з юбілеем 80-годдзя!**

Юбіляр нарадзіўся 12 жніўня 1936 года ў Гушчэвіне на Нараўчанскай зямлі. Рэдакцыя «Нівы» і чытачы ведаюць Сымона Раманчука з самых пачаткаў тыднёвіка. Родная беларуская мова ў Яго духоўным і свецкім жыцці была заўжды арыенцірам і моцай размовы з Госпадам, ухвалай Яго і падзякай за дабро і красу акружаючага свету.

**Ваша Праасвяшчэнства**! Жадаем Вам найперш вытрымкі ў здароўі, беражэння рассыпанай паствы Хрыстовай і плёну ў творчай працы.

Многія леты!

Рэдакцыя «Нівы»

# Песня
## — наша радасць

У разгары летні сезон беларускіх фэстаў на праваслаўнай Беласточчыне. Песенныя калектывы з усходняга Падляшша прэзентуюцца на мастацкіх летніх выступленнях на гмінных і павятовых сцэнах. Сярод аматарскіх гуртоў каля 30 гадоў спяваюць «Нараўчанкі» з Нараўкі, пад музычным кіраўніцтвам Пятра Скепкі. «Нараўчанкі» ведаюць многа песень, але не хапае ім новых. Напісаў я верш аб роднай зямлі пад загалоўкам «Песня мая» і паказаў Пятру Скепку. Ён ахвотна склаў да майго верша музыку і ўзнікла песня, якая стала своеасаблівым гімнам калектыву. У песні спяваецца аб прыгажосці Беластоцкай зямлі, Белавежскай пушчы і чароўнасці беларускай песні. Нядаўна аўтар слоў дапісаў яшчэ чацвёрты куплет:

Песня — мая радасць,
Песня — маё шчасце,
Песня акрыляе, кліча ў паход.
Песня нас яднае,
Песня спалучае.
Не жыве без песні наш народ.

Гэтыя словы выразна падкрэсліваюць значэнне песні ў жыцці людзей.

Ужо 5 гадоў «Нараўчанкі» сябруюць з гуртом «Жаваранкі» з Махнатага Гайнаўскай гміны. Там таксам іграе Пётр Скепка. Арганізацыйным кіраўніком «Жаваранкаў» з'яўляецца Аляксей Герасімюк. «Жаваранкі» спяваюць ахвотна і вельмі дружна. Акрамя старэйшых спевакоў ёсць у іх і маладыя. Ім хочацца мець свой «гімн». Сябрам не адказваю. Пішу верш «Ах вы, жаваранкі». Ён пачынаецца так:

У Махнатым многа спевакоў,
«Жаваранкамі» яны завуцца.
Быццам птушкі ранняю вясной
Песняю народнай адазвуцца.
Эх вы, жаваранкі-жаўрукі,
А інача́й мілья «скаўронкі».
Вашы песні льюцца ад душы,
Быццам гімны роднае старонкі.

«Жаваранкі» абяцалі стварыць мелодыю і спяваць гэту песню.

Ад Гайнаўкі да Бельска раскінута многа вялікіх беларускіх вёсак. Сярод іх гміннае сяло — Чыжы. У Чыжах дзейнічаюць два беларускія калектывы. Старэйшым гуртом пенсіянераў кіруе настаўнік музыкі — скрыпачка Ірына Лукашук. Яна напісала музыку да маіх вершаў, такіх як «Дзесь там пад Нараўкай», «Загляну́ў вечар у акно» і чыжоўскі гурт іх спявае.

Спяваюць між іншым, людзі з вёскі Мора. Яны хочуць мець песню аб сваім сяле. Быў я калісьці ў Моры, у настаўніка Анатоля Падольца, з якім разам «студыяваў». У ліцэі разам вучылася моладзь з гэтай вёскі. Дзяўчаты Масальскія вельмі добра вучыліся. Сеў я за стол і ў такт рамaнса «Вочы чорныя» стаў пісаць верш:

На Гайнаўшчыне, у вёсцы Мора
Жывуць маране, з дзядоў сяляне.
Жыве народ тут наш беларускі,
Спявае гуртам, як у небе птушкі.

Можа, атрымаецца песня?

Вельмі прыгожа выступаюць на конкурсе ў Гайнаўцы «Чыжавяне», якім іграе на баяне Юры Ганевіч.

Выслаў я ім песенны тэкст, у якім, між іншым, пішу:

Люблю слухаць вас, «Чыжавяне»,
Слухаць хочацца і танцаваць.
Як зайграе Юрка на баяне,
Ногі просяцца самі скакаць.
Ой вы, песні — мае весялухі
Людзям вы памагаеце жыць.
Бо жанчыны без песень — старухі
І мужчыны — старэчы без вас.

Людзі старэюць і адыходзяць, а песні застаюцца ў народнай памяці. Песня — сапраўдная наша радасць.

❖**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## СПАЧУВАННІ

**Ольга Зюзя,**

жыхарка былой вёскі Рудня, дажыла 89 гадоў і памерла на Грабарцы. Шчырыя спачуванні яе сыну Юрыю Зюзі і яго блізкім перадаюць жыхары былых вёсак Рудня і Рыбакі.

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. самец каровы = 11 _ 13 _ 14 _;
2. стагоддзе = 4 _ 5 _ 3 _;
3. выканаўца смяротнага прыгавору = 7 _ 8 _ 6 _;
4. самец львіцы = 12 _ 18 _ 16 _;
5. водар = 1 _ 2 _ 9 _;
6. дзяржава з пустыняй Атакама = 21 _ 22 _ 19 _ 20 _;
7. партнёрка яго = 10 _ 17 _ 15 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 | 22 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 30 нумара**

Прывілея, пай, кветкавод, баляванне, Ішым, хамут, тын, малакасос.

Рашэнне: **Лянівай кабыле і хвост мяшае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 14.08 — 21.08

**(22.03. — 20.04.)** Справішся з усім, на чым табе залежыць. Актыўна дзейнічай на кожным полі. Самотныя Бараны знойдуць да каго прытуліцца і аглядаць разам захады і ўсходы Сонца. На працы спакойна, усе з табой будуць лічыцца. Вельмі пільнуй тэрміны, дакументы, рэцэпты.

**(21.04. — 21.05.)** 13-16.08. не ўключайся ў канфлікты, якія цябе непасрэдна не датычаць. Кепскавата з матывацыяй, але ўдадуцца табе ўсе баталіі ва ўстановах. І вельмі ўдалы адпачынак. Быкам без абручальнага пярсцёнка варта зайграць у адкрытыя карты. На працы варта пастарацца, твой козыр — інтэлігентнасць, рэфлекс і ўмеласць наладжваць кантакты. Калі шукаеш працу, з 18.08. (да 23.08.) можаш атрымаць файную прапанову.

**(22.05. — 22.06.)** Марыш пра адпачынак? Чакае цябе вельмі шмат бестурботных хвілін. Удала ў афармленні спраў ва ўстановах, хаця будзе таксама крыху нерваў. На працы таксама даб'ешся свайго. 13-17.08. налягай на рамонт. У стыкоўцы з канкурэнцыяй не шаржуй, у найлепшым выпадку будзе нічыя. 13-19.08. сачы за аб'явамі аб працы. Адна фірма будзе патрабаваць энергічнай, сумленнай і крутой асобы.

**(23.06. — 23.07.)** Адрэжашся ад таго, што мае на цябе благі ўплыў. Пераканаеш да сваёй асобы людзей, які ахвотна выканаюць твае патрабаванні. Будзеш вельмі прыцягальны. 13-18.08. хтосьці да цябе стане ўздыхаць. Выберыся ў падарожжа, далейшае ці карацейшае, 19.08. можаш вярнуцца не адзін. Будзеш уздымацца па прыступках кар'еры. Еж ягады.

**(24.07. — 23.08.)** 14-18.08. можаш атрымаць доўгачаканую прапанову. 17-20.08. пераможна выйдзеш з нялёгкіх сітуацый. Гарачыя эмоцыі ў пары, новыя захапленні, тарнада на працы. Фінансамі не турбуйся, будзе падзарабак. Нудзіцца не будзеш!

**(24.08. — 23.09.)** Адважся быць сабою. І не пагаджайся на тое, што добрае для іншых, а не для цябе. Юпітар схоча цябе сасватаць; не бараніся перад каханнем! 13-18.08. шмат асоб схоча навязаць табе свае рады; разгледжвай іх — можа тым, хто будзе найбольш з імі назойлівы, залежыць больш на сваіх справах, чым на тваіх. Калі шукаеш працу, не раставайся з тэлефонам паміж 18 і 22 жніўня. Рабацяг пацягне на спецыялістычныя кірмашы і канферэнцыі — здабудзеш новыя ўмеласці.

**(24.09. — 23.10.)** Не ляніўся, хаця канікулы — маеш шанцы на немалыя поспехі! 15-19.08. вернецца табе тое, што ты лічыў даўно страчаным. 13-16.08. не ўпірайся, каб не страціць нейкага шанцу. У пары не маўчы. На працы папаганяй хвасты, бо можаш страціць павышэнне, прэмію або нават і пасаду. Калі шукаеш працу, 13-17.08. разваж, ці залежыць табе больш на прэстыжы і знакамітых заробках, ці цікавай творчай працы згоднай з тваім духам.

**(24.10. — 22.11.)** 15-20.08. будзеш вабны і рады сваім жыццём. Але 15.08. пільнуйся, каб тваё рашэнне не давяло да таго, што пачнеш хутка яго шкадаваць. Суседзі будуць прачуленыя, будзеш каля іх хадзіць на пальчыках, асабліва пасля 22 гадзіны. Не мяшай жыцця працоўнага з асабістым. Не налягай на ласункі.

**(23.11. — 22.12.)** 13-15.08. не раскідвайся грашыма, не раскашэльвайся перад знаёмымі. З усялякай кабалы выйдзеш пераможцам. Не спяшайся, дойдзеш да мэты ў свой час. Раз'езды, хаця наракаць на гэта будуць родныя. Добрая задума на бізнес — палова поспеху. Плюс шчасце. А гэта можа быць там, дзе ты б і не спадзяваўся!

**(23.12. — 20.01.)** 13-15.08. з-за нерашучасці не страць шанцу на каханне! Гуляй, падарожнічай, адпачывай, знаёмся. Выберыся туды, дзе ніколі не быў. Не чакай, што іншыя вырашаць за цябе твае праблемы — хопіць ім сваіх. Бярыся за радыкальныя змены. Можаш перасяліцца, канчаткова парваць кантакты з некаторымі людзьмі. Некаторыя супрацоўнікі твае заслугі прыпішуць сабе. Магчымасці змены працы з 18.08 (да 25.08.), а калі добра табе на старой, павысяць цябе або вышлюць на карысныя і файнае абучэнне.

**(21.01. — 19.02.)** 14-18.08. удасца табе прабіць свае задумы. Магчымыя горшыя хвіліны, але чакае цябе мяккае прызямленне. Высока станеш у кампанейскім рэйтынгу, будуць табой захапляцца і паважаць. Не купляй, напрыклад, непатрэбнай канапы.

**(20.02. — 21.03.)** Лепш не купляй 14-17.08., таму што лёгка будзе цябе намовіць да ўсяго. З 18.08. (да 27.08.) ніякі шанц не ўцячэ табе з-пад носа! Калі плануеш замену жылля, добрыя нагоды будзеш мець паміж 18 і 27.08. Шукаючы працу, дай сабе запамятаць чымсьці незвычайным.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (51)

На Палессі, як нідзе ў свеце, любяць прыхарошыць здарэнне, каб і апошняя тупіца належным чынам ацаніла яго ранг і значэнне. А калі яшчэ там было вядро самагонкі, падзея пераходзіла ўсё на свеце і станавілася легендай. Так, менавіта, атрымалася з эксклюзіўным паркетам, па якім і мне выпаў гонар ступаць у Нуйненскім доме культуры...

Гэта здарылася ў сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя, у апошні дзень старога года. Важны чыноўнік Ківерцаўскай дрэваапрацоўчай фабрыкі вяртаўся з Любашава з камандзіроўкі. У яго галаве мроіліся ўжо навагодні баль, феерверкі, шампанскае. Ну, каб далей ад таго Палесся! На поўначы нібыта ўсё нармальна. Але ж...

Раптам колы забуксіравалі ў снезе, завуркатаў матор, затрасло салонам.

— Каб то была фурманка, то абклаў бы кабылу пугай, — падумаў у злосці чыноўнік.

Што не рабілі, чаго не прыдумвалі — усё дарэмна. Машына звычайна зламалася.

Катастрофа здарылася якраз ля вясковага клуба ў Нуйно.

Чыноўнік адправіў шафёра ехаць у горад за дапамогай, а сам захутаўся ў кажух і сядзеў як затычка ад пекла. Ён меў свой гонар, не любіў у тутэмцаў прасіць ласкі. Спыняла яшчэ злосць на мясцовых, якія з-за ляноты не расчысцілі дарогі. А на дварэ цямнела, мацаваўся мароз. Чыноўнік зіркаў у акно клуба, праз якое прабівалася малочнае святло. Калі хто адкрываў дзверы будынка, з сярэдзіны бухала беленькае воблачка цеплыні. Акасцянелы ад холаду чыноўнік вылаяўся ў думках ды, як які недабітак, завалокся пагрэцца ў святліцу...

А там усё прыстойна, весела. Танцы, музыка, спевы. Толькі ў кутку, дзе стаяў салідны бачок, панавала ажыўленая мітусня. Хлопцы цісняцца да пасудзіны, зачэрпвалі кубак і прагна пілі, як у жніво.Чыноўнік таксама адчуў смагу ў вуснах і прыліп да чаргі. Каб хоць капельку вады ў рот! Калі дабрыў да вадаёма, ён зачарпнуў поўны кубак і стаў прагна жлукціць. І толькі ў палове ёй зразумеў, што п'е не ваду, а самагонку. Усе туземцы глядзелі на яго з прыадкрытымі ратамі. Чыноўнік славутай фабрыкі ведаў, што трэба выпіць да дна і не падаць выгляду. Іначай, ён не мужык на Палессі. Ды і якая розніца — замерзнуць на дварэ, ці сканаць ад самагонкі.

Калі кубак быў ужо гатовы пайсці ў чарговыя рукі, грамада, зухавата выгукнула:

— Маладзец!

Нехта з боку падсунуў яму скібку хлеба са скрылём сала. Ах, якое гэта было смакоцце! Чыноўнік быў шчаслівы. Пасля ён гуляў, піў і спяваў з мясцовымі да белага рання. Раніцай, калі ён збіраўся ў дарогу, нізка пакланіўся нуйненцам. Не выпадала з'ехаць без слова падзякі і нейкай абяцанкі.

— Скажыце, што вам трэба? — дапытваўся. — Усё дабуду, усё афармлю!

Недабіткі начной гулянкі не ведалі чаго ім яшчэ да шчасця трэба. Яны толькі што паставілі ў кутку новы бачок з самагонкай. Забаву з прыезджым хутчэй палічылі добрым знакам, карацей кажучы, яны верылі, што нешта адменіцца, пашанцуе. І гэтага ім хапала.

Пасля, калі будавалі дом культуры, спатрэбіліся паркетныя клёпкі. Дэлегаваны мужык падаўся ў Ківерцаўскую фабрыку, вядомую на ўвесь Саюз. Спачатку з ім не хацелі гаварыць. Чыноўнік, да якога звярнуўся па справе, нават не падняў галавы з-над пісьмовага стала:

— Ну, так! Для нас, палешукоў, заўсёды не хапае. Нас заўсёды адсылаюць з пустымі рукамі, — пачаў наракаць нуйненец.

— Вы будзеце з Палесся? — раптам ажывіўся чыноўнік. — А адкуль, канкрэтна?

— З Нуйно.

— Ах, з Нуйно!

Праз момант запанавала маўчанне. А пасля той самы чыноўнік, які яшчэ пяць хвілін раней не хацеў падняць галавы, цяпер падпісваў патрэбныя квіты на ківерцаўскі паркет. Ён з узрушанасцю прыгадаў імёны прыгажунь, чароўныя песні, мясцовыя смакоцці:

— Нідзе больш я не піў такой самагонкі, як у Нуйно, — заявіў з сантыментам.

Аказалася, што гэта быў той самы чыноўнік, які ў славутую «Гагатуху», па прычыне аварыі машыны, закапаўся ў Нуйно. Словам, добрая варажба збылася і матэрыялізавалася ў выглядзе дубовай клёпкі.

* * *

Я сама мела магчымасць пакаштаваць нуйненскія смакоцці пад чарку славутай самагонкі. Удзельнікаў з'езду на заканчэнне чакаў стол, застаўлены як на вяселле. Як надта «важнага» госця мяне пасадзілі каля галавы — Віталя Іванавіча. Гаспадар сяла напоўніў чарку і падаў у мае рукі.

— Скажыце слова! — загадаў.

Я зірнула на эксклюзіўны паркет і пачырванела як вяргіня. Каб хто раней сказаў, што прыйдзецца піць гарэлку ў такую трапічную жару, я б самлела ад самой думкі. А тут яшчэ трэба падняць тост, выпіць і не падаць выгляду.

Якраз у гэты дзень святкавалі Пятра і Паўла, дык я пахваліла песні і падняла тост за імянніннікаў.

— Пі да дна! — выгукнула зала.

Напой у чарцы меў бурштынавы колер і далікатны, аксамітны смак як марачны каньяк.

— Гэта самагонка? — здзівілася я.

— Да, наша, палеская...

Нуйнеская самагонка была прыпраўлена нейкім лясным коранем, які адкрываў смак у роце, супакойваў дурныя нервы і разбуджваў радасць на душы.

Я не паспела сесці на месца, як на маёй талерцы дымела ўжо бульба, закрашаная шкваркамі, зялёнай цыбуляй і свежым кропам. Да гэтага падалі тушонку з цяляціны, якая расплывалася ў роце і пахла баравікамі. У якасці прыстаўкі прапанавалі памідоры з хатняга агарода, салёныя агурочкі, салодка-кіслы салат з белай капусты, лімон, вішні і дзікія персікі. Прыпрашаць «надта важнага» госця паднялася сама Яўгенія Кандрацьева. Яна падкідала мне смачныя кускі на талерку і з мацярынскім клопатам у голасе паўтарала: чаму Вы нічога не ясце?

— Я ем! — апраўдвалася я.

— Што гэта за яда, трэба ўсё пакаштаваць.

— Я ем, ажно вушы трасуцца!

— Няпраўда, нічога Вы не ясце!

Тым часам памянялі талеркі і прынеслі кракеты з грыбной начынкай. Нібыта звычайная страва, а тут смакавала лепш, чым у прэстыжным рэстаране. Пасля прыйшла чарга на піражкі-галушкі, нашпігаваныя сырам і бульбай. Да іх падавалі свежае хапяне, масла і соль. Смакоцце, аб'ядзенне, не расказаць! Спадарыня Кандрацьева даглядала, каб мая талерка была гатовая на чарговую страву ды з мацярынскай чуласцю паўтарала:

— Ешце, мілая, ешце! Чаму Вы нічога не ясце?

Аднак не яда і пітво было асновай і душой гасціны ў Нуйно. Кожныя дзесяць хвілін, калі напаўнялі чарговыя чаркі бурштынавай самагонкай, гучаў новы тост. Палескія тосты лепшыя за грузінскія. Яны напаміналі мініяцюрныя оды ў адрас гаспадароў, славілі іх здольнасці і працавітасць, далей ішлі пажаданні здароўя, багацця, кахання, прыбытку ў хаце і гаспадарцы: каб куры добра несліся і жонкі не старэлі! Часам пажаданні-тосты рыфмаваліся, а іх квяцістасць не саступала букетам надрукаваным у газеце «Полісся». Гэта ўсё дапаўнялі галасістыя спевы «Берагіні», якую частавалі за другім, асобным сталом. Я ацаніла клас гаспадароў. Мой тост у параўнанні з пачутым здаваўся сціплым і ашчадным, але мяне ўгашчалі як нейкую царыцу.

І яшчэ ад душы спявалі старыя песні. Наступная «ягадніца» гучыць так:

Ой нюты нашы до дому,
Бо прыпадемо росою.
А як росою прыпадэм,
Той до домоньку нэ зайдэм.
Наша матьёнка домуе,
Нам вэчэроньку готуе.
А як нэ будэ готовать,
Хай нэ ночуе ў дома.
Нэхай ночуе ў ліэсі,
Як та пташэчка ў стрысі.
Нэхай ночуе ў полі,
на шырокому загоні.

* * *



■ Віталь Іванавіч Ярашчук

Галава, Віталь Іванавіч Ярашчук, запрасіў мяне ў свой кабінет, каб асабіста ўручыць палескі бутлік самагонкі. Ён сам не надта падзяляў мой энтузіязм для старых песень:

— За многа ў іх сумнага зместу, за многа жалю...

Сяло Нуйно існуе ад часоў сярэдневякоўя. У пісьмовых крыніцах першы раз пазначанае пад 1463 годам і яно прыналежала князям Сангушкам. Мясціна мае славутых ураджэнцаў. 19 лютага 1789 года ў сям'і свяшчэнніка нарадзіўся Антоній Рафальскі (у міры Рыгор Антонавіч Рафальскі), варшаўскі епіскап Рускай Праваслаўнай Царквы, ад 1843 года мітрапаліт наўгародскі, санкт-пецярбургскі, эстляндскі і фінляндскі, найгалоўны член Свяцейшага Праўіцельствуючага Сінода, прыхільнік скасавання царкоўнай уніі. Саноўнік пахаваны ў Санкт-Пецярбургу, у апошнюю дарогу адводзіў яго сам цар Мікалай І. У Нуйно захаваная грабніца з астанкамі бацькоў праваслаўнага саноўніка.



■ Банкет у Нуйно

— Наша сяло развіваецца, — кажа Віталь Ярашчук, — кожны год у нас нараджаецца каля трыццаці дзяцей. Чым займаюцца людзі? Працуюць на зямельных участках, велічынёй да 2 га. Там садзяць бульбу і ўсё такое. Дваццаць асоб працуе ў сельскагаспадарчым прадпрыемстве, якое гадуе мясных кароў. Праўда, гэта невялічкі адсотак на 1670 жыхароў.

— То якім цудам сяло развіваецца? — пытаю.

— Моладзь з'язджае на работу ў краіны, дзе прыстойны заробак. Найбольш у Санкт-Пецярбург і ў Маскву. Зараз там можна зарабіць 1-2 тысячы долараў у месяц. А раней, да рэвалюцыі, зараблялі нават 2,5 тысяч баксаў.

— Немагчыма?

— Гэта і так больш, чым заробак у Польшчы, — дадае старшыня. — На адны візы да вас трэба патраціць 500 долараў. А каб зарабіць тысячу долараў, трэба гараваць ад рання да поўначы.

Віталь Ярашчук — карэнны туземец. Пасля заканчэння Сельскагаспадарчай акадэміі вярнуўся ў Нуйно, дзе кіраваў калгасам. Тады працавала больш за дзвесце чалавек, сеялі збожжа, гадавалі кароў і свіней. Пераход на рынкавую гаспадарку вымусіў абмежаваць прадукцыю і штаты.

— Нам і так пашанцавала, — кажа на аптымістычнай ноце, — бо кругом парасцягвалі калгасную маёмасць. Нам удалося яе захаваць.

— Што яшчэ застаўляе маладых вяртацца, ставіць тут новыя хаты, закладаць сем'і? — пытаю.

— Мы ўсе стараемся дружна з сабой жыць, дапамагаць адзін другому, — чую ў адказ, — каб пасля было з кім выхіліць чарку і заспяваць у гасціне.

* * *

Мы таксама не пакінем нашых чытачоў без шырэйшага апісання сексуальнага абраду «гірка». Ніхто з мясцовых не ведае адкуль пайшоў такі назоў, ці ад слова «гірка», якое крычаць маладым на вяселлі, ці проста ад «іграў», фліртаў. Самыя старыя ў сяле казалі, што «хадзілі на ноч». Моладзь сустракалася ў прасторнай хаце, дзе не было малых дзяцей. Дзяўчаты бралі з сабой кудзелю, вышывалі, спявалі. Калі змяркала, у хату заходзілі кавалеры. Яны прыдумвалі ўсякія фокусы, жартавалі. А пасля, з выглежданай дзеўкай, клаліся спаць на нарах з сяннікам напханым саломай. Кожная дзяўчына прыносіла з сабой радзюжку і падушку. Часам у хаце начавала да дваццаці пар. Моладзь абнюхвалася, прывыкала да сябе. Але на больш сабе не дазваляла. Калі хто пачынаў непрыстойна паводзіць сябе, яго выкідалі «з гіркі». Адна бабуля ўспамінала, як спала з будучым мужам шмат начэй, а пасля іх вяселля яшчэ два месяцы ў іх былі платанічныя адносіны. Яны саромеліся адзін аднаго. Як далей пакацілася іх жыццё-быццё? Звычайна. Як у людзей. Бабуля нарадзіла васьмёра дзяцей.

(працяг будзе)

❖ Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960